ББК 63.3(2)2 4-21

Р э ц э н з е н т ы :  Звяруга Я. Г., кандыдат гістарычных навук; Мітрафанаў А. Р., кандыдат гістарычных навук

**Чарняўскі М .**
Бронзавы век на тэрыторыі Беларусі.— Мн.: Нар. асвета, 1981.— 64 с., іл.—(Школьнікам— аб гісторыі Беларусі).

Кніга на аснове археалагічных раскопак апавядае пра першабыт-наабшчынны лад на тэрыторыі нашай рэспублікі ў эпоху з'яўлення першых металічных прыладаў, распаўсюджвання земляробства і жывёлагадоўлі.

## УСТУП

Каменны век — пара «дзяцінства» чалавецтва, У тую вельмі далёкую эпоху людзі жылі дзякуючы паляванню, рыбацтву і збіральніцтву. Сваімі паводзінамі і нават побытам першыя людзі нагадвалі чалавекападобных малпаў. Але існавалі і істотныя адрозненні. Паляваннем і рыбацтвам чалавек займаўся з дапамогай каменных і касцяных прыладаў працы. Каб выкапаць які-небудзь клубень або корань, наш першабытны продак карыстаўся палкай ці ручным крамянёвым секачом. Жывёла ж здабывала сабе ежу зубамі і кіпцюрамі.

Людзі каменнага веку авалодалі агнём, навучыліся будаваць жыллё, шыць вопратку, членараздзельна размаўляць, маглі абстрактна мысліць, былі аб'яднаны ў мацярынскія родавыя абшчыны. У каменным веку ўзніклі і пачалі развівацца мастацтва і рэлігія, а ў канцы яго чалавек навучыўся вырабляць гліняны посуд, пачаў гадаваць свойскую жывёлу і вырошчваць культурныя расліны. Пра каменны век аўтарам гэтых радкоў напісана кніжка «З глыбінь тысячагоддзяў».

У пачатку II тысячагоддзя да н. э. на тэрыторыі Беларусі наступіў бронзавы век. Хоць пераважную колькасць прыладаў працы і ў новую эпоху па-ранейшаму складалі каменныя і асабліва крамянёвыя вырабы, аднак ужо сталі ўжывацца і першыя металічныя вырабы з медзі і бронзы. Паўсюдна ўсталяваліся прагрэсіўныя формы гаспадарання — земляробства і жывёлагадоўля. Складваліся і развіваліся патрыярхяльна-родавыя адносіны паміж людзьмі.


**Карта важнейшых культураў бронзавага, веку.**
1 — паўночнабеларуская; 2 — фацьянаўская; 3 — сярэднедняпроўская; 4 — прыбалтыйская; 5 — культура шнуравой керамікі Палесся; 6 — тшцінецкая; 7— сосніцкая.

На больш паўднёвых тэрыторыях і асабліва там, дзе меліся ўласныя запасы медзі, працэс пераходу ад каменнага да бронзавага веку адбыўся раней. Так, у Месапатаміі бронза стала вядомай яшчэ ў сярэдзіне IV тысячагоддзя да н. э., у Закаўказзі — у III тысячагоддзі да н. э. На некаторых тэрыторыях бронзаваму веку папярэднічаў меднакаменны век — энеаліт, калі людзі яшчэ не ўмелі выплаўляць бронзу, але медныя прылады ўжо рабілі.

Усю эпоху медных і бронзавых вырабаў на нашай тэрыторыі ўмоўна падзяляюць на тры перыяды — ранні бронзавы век, які каля сярэдзіны II тысячагоддзя да н. э. змяніўся сярэднім. У апошняй чвэрці гэтага тысячагоддзя пачаўся позні бронзавы век, які працягваўся амаль да сярэдзіны I тысячагоддзя да н. э., калі ён уступіў сваё месца ранняму жалезнаму веку.

У бронзавым веку тэрыторыю Беларусі засялялі шматлікія плямёны, якія адносіліся да розных археалагічных культураў. Так, у пачатку II тысячагоддзя да н. э. тут з'явіліся плямёны культураў шнуравой керамікі, або баявых сякераў,— сярэднедняпроўскай у Падняпроўі і на Ніжняй Прыпяці, прыбалтыйскай на паўночным Захадзе. На поўначы ў гэты час існавала паўночнабеларуская культура, а на паўднёвым захадзе жыло насельніцтва асобнай заходнепалескай групы культураў шнуравой керамікі. У сярэднім бронзавым веку Падняпроўе засялялі плямёны сосніцкай культуры, басейн Прыпяці і значную частку Панямоння — тшцінецкай культуры. У познім бронзавым веку ў цэнтральнай і заходняй Беларусі жыло насельніцтва, якое ў сваім побыце ўжывала розныя тыпы гладкасценнай і штрыхаванай керамікі. Пранікалі ў бронзавым веку на нашу тэрыторыю і носьбіты іншых археалагічных культур, асноўныя тэрыторыі рассялення якіх знаходзіліся па-за межамі сучаснай тэрыторыі рэспублікі.

Бронзавы век — надзвычай важны этап развіцця чалавецтва. У ранейшы час для вырабу прыладаў працы і зброі чалавек браў гатовыя матэрыялы, якія меліся ў прыродзе — камень, косткі, дрэва. Навучыўшыся выплаўляць з руды металы і рабіць з іх бронзу, людзі стварылі для сваіх патрэб прынцыпова новы матэрыял, якога ў прыродзе да гэтага часу не было. Так пачалася металургія. А ад выплаўкі медзі і бронзы ўжо быў адзін крок да выплаўкі з балотнай руды жалеза, якое зрабіла сапраўдную рэвалюцыю ў жыцці чалавецтва. Вобразна кажучы, у звоне бронзавай сякеры ўжо чуўся звон жалезнага лемяша, грукат колаў цягніка па рэйках, грымотны ўзлёт касмічнай ракеты.

## ПЕРШЫЯ РУДАКОПЫ, ВЫПЛАЎКА МЕДЗІ І БРОНЗЫ

Палюючы на дзічыну, шукаючы ядомыя расліны, збіраючы крамяні, першабытны чалавек усё больш даследаваў нават самыя аддаленыя куткі свайго наваколля. І пэўна ў час гэтых вандраванняў яму трапляліся кавалкі самародных металаў — золата, жалеза, медзі, якія сваім бляскам або колерам прыцягвалі яго ўвагу. Спачатку

чалавек гэтыя знаходкі лічыў толькі незвычайнымі камянямі і апрацоўваў іх такім жа спосабам, як крэмень,— шляхам абіўкі. Але вядома, што тая ж самая самародная медзь не разбіваецца так лёгка, як крэмень, і ад яе нельга адкалоць тонкія і вострыя адшчэпы і пласцінкі. Таму абіўка толькі змяняла форму знойдзенага кавалка металу і фактычна з'яўлялася першапачатковым прымітыўным халодным каваннем. Так, напрыклад, эскімосы яшчэ ў мінулым стагоддзі з сабранай самароднай медзі выкоўвалі наканечнікі стрэлаў, дзідаў, нажы.

Так апрацоўвалі першыя металы ўсе народы. Вядома, што да з'яўлення ў Амерыцы еўрапейцаў там усе медныя вырабы былі каваныя. Тое ж самае было і ў старажытным Егіпце, Месапатаміі, Індыі, Кітаі.

Апрацоўваючы самародны метал і карыстаючыся меднымі вырабамі, чалавек усё больш пазнаваў уласцівасці гэтага «каменя». Прымаючы пад увагу, што ў чалавечым жыцці пастаянна прысутнічаў агонь, у рэшце рэшт павінна было адбыцца «сутыкненне» медзі або меднай руды з агнём. Дзякуючы гэтаму чалавек заўважыў, што медзь плавіцца, а з меднай руды «выцякае» чысты метал. Такое магло здарыцца, напрыклад, калі медныя рэчы выпадкова траплялі ў агонь або з кавалкаў меднай руды складалі аснову агнішча.

Аднак і навучыўшыся выплаўляць медзь з руды, для апрацоўкі атрыманых зліткаў па-ранейшаму ўжывалі той жа стары спосаб халоднага кавання і толькі пазней прыйшлі да найбольш дасканалага метаду — адліўкі рэчаў з расплаўленай медзі ў адпаведных формах.

У Заходняй Еўропе паклады медзі былі вядомы на тэрыторыі Чэхаславакіі, Венгрыі, Румыніі, Аўстрыі, Іспаніі, Італіі, Англіі; у нашай краіне — на Каўказе, Урале, у Прыкарпацці. Шмат медзі мелася і на іншых кантынентах. Напрыклад, у Паўночнай Амерыцы на паверхні зямлі сустракаліся кавалкі самароднай медзі вагой да 260 кг.

У познім неаліце (неаліт — новы каменны век), калі першабытны чалавек выбраў лепшыя запасы крэменю на паверхні, ён перайшоў да шахтавай распрацоўкі крэменяносных радовішчаў крэйды ў зямной глыбіні. Так і ў новую эпоху, у бронзавым веку, сабраўшы ў вядомых мясцінах самародную медзь і медную руду, якая залягала на паверхні, чалавек пачаў здабываць іх у нетрах горных парод, тэта значыць перайшоў да шахтавага спосабу.

На Паўночным Каўказе ў вярхоўях ракі Вялікі Зеленчук выяўлена медзездабываючая шахта бронзавага веку, якая прабівала горную пароду і дакладна трапляла на жылу сярністай меднай руды. У той жа час пры вывучэнні іншых старажытных выпрацовак бачна,

што многія з іх закладваліся наўздагад і не заўсёды давалі патрэбны вынік: пошукі медных руд часам вяліся спосабам «спроб і памылак».

Сёння для пошукаў карысных выкапняў ужываюцца складаныя прыборы, у тым ліку ўстаноўленыя і на штучных спадарожніках Зямлі, выкарыстоўваюцца метады геафізічных назіранняў, прабіваюцца глыбокія пошукавыя свідравіны. Зразумела, што чалавеку бронзавага веку ўсе гэтыя спосабы былі недаступныя. Спачатку ён проста збіраў у горнай мясцовасці, там, дзе пароды былі перамыты рэкамі і горнымі патокамі, выветраны або выходзілі на паверхню ў месцах трэшчын і разломаў, канкрэцыі самароднай медзі. З вопыту і назіранняў нашы продкі пазней пачалі выяўляць выхады выкапнёвых пакладаў па колеру вокіслаў — чырванавата-зялёнаму і зеленавата-чорнаму. А пад налётам вокіслаў, калі іх счысціць, адкрываўся знаёмы і жаданы для вока старажытнага горназдабытчыка чырвоны колер медзі.

Натуралькыя россыпы самароднай медзі сведчылі, што недзе побач знаходзяцца яе некранутыя скопішчы. Пра наяўнасць медных руд гаварылі пытліваму горназдабытчыку і характар расліннасці — нізкарослы, як бы высыхаючы лес, дробная трава, асаблівыя віды раслін, якія, наадварот, лепш развіваліся побач з меднымі пакладамі і іх вокісламі. Магчыма, ужо ў бронзавым веку было заўважана, што над медзяноснымі жыламі хутчэй таюць іней і снег.

Многія іншыя адзнакі, веды пра якія назапашваліся на працягу многіх пакаленняў, дапамагалі чалавеку бронзавага веку ў яго пошуках неабходнай сыравіны.

На тэрыторыі СССР буйныя цэнтры здабычы медзі існавалі на Каўказе, Урале, Алтаі, вядомы паклады медзяносных парод у Прыкарпацці, Данбасе, на Сярэдняй Волзе і ў іншых мясцінах. Былі медзездабываючыя шахты на Пірэнейскім паўвостраве, у Францыі, Англіі, у Цэнтральнай Еўропе.

На старажытных распрацоўках практыкаваліся ўжо вядомыя раней спосабы, якія выкарыстоўваліся і пры шахтавай здабычы крэменю. Тыя ж самыя, што і раней, былі і гарняцкія інструменты — рогавыя кайлы, кліны. Пазней рогавыя прылады сталі замяняцца масіўнымі каменнымі молатамі, завостраныя канцы якіх служылі і як кіркі. З цягам часу сталі рабіць спецыяльныя гарняцкія металічныя інструменты (медныя, а затым бронзавыя) — кіркі, кувалды. Праўда, па-ранейшаму для раздраблення здабытай руды часам ужываліся і каменныя молаты.

Тымі прымітыўнымі інструментамі, якімі валодаў старажытны шахцёр, было амаль немагчыма прабіцца праз горную пароду. У гэтай справе чалавеку дапамагаў агонь: разагрэты з дапамогай вогнішча камень палівалі вадой, і ён трэскаўся. У трэшчыны заганялі драўляныя кліны, чым яшчэ больш раздраблялася парода. Калі выпрацоўкі былі залішне прасторныя, будаваліся спецыяльныя памосты ля руданоснага пласта, на якім раскладвалі вогнішча, каб награвацъ патрэбныя месцы. А каб памост сам не загарэўся, яго палівалі вадой з драўляных карытаў, якія ў закінутых шахтах захаваліся аж да нашага часу. У шахтах захаваліся таксама і рэшткі лесвіц — ствалы дрэў з высечанымі прыступкамі, плеценыя з дубцоў сіты, на якіх прасейвалі раздробленую руду; драўляныя рыдлёўкі, рэшткі, скураных мяшкоў, у якіх выцягвалі пароду на паверхню. Шахты асвятляліся вогнішчамі, паходнямі або лучынай.


Медныя ўпрыгожанні сярэднедняпроўскай культуры.

У адной расчышчанай шахце археолагі натрапілі нават на сляды некаторай механізацыі. Было знойдзена карыта з плоскім дном і высокай тарцовай сценкай; супрацьлеглая сценка, наадварот, была ніжэйшая і завостраная, з адтулінай для прывязвання вяроўкі. Ля ўваходу ў шахту знаходзіўся трохспіцавы драўляны калаўрот. Вяроўку накручвалі на калаўрот і так выцягвалі ў карыце па нахільнай шахце медную руду.

Высокага ўзроўню дасягнула і «тэхніка бяспекі» ў шахтах. Найбольш простыя мацаванні — дошкі пад столлю выпрацоўкі, падпёртыя бярвеннем, якое ніжнім канцом упіралася ў спецыяльныя паглыбленні ў падлозе. У больш небяспечных мясцінах сцены і столь спрэс умацоўваліся дошкамі. Калі штрэк выходзіў на ваданосны пласт і шахце пагражала затапленне, будавалі з дошак плаціны, канапацілі іх мохам і нават шматкамі старой вопраткі.

І ўсё ж часам у шахтах здараліся няшчасці. Бадай, самы трагічны выпадак у гісторыі старажытнай горназдабываючай справы, вядомы археолагам, здарыўся ў адной з шахтаў Іспаніі, дзе ў час абвалу было засыпана 16 чалавек.

Руду, здабытую ў шахтах, раздраблялі і расціралі на парашок. Парашок прамывалі, каб аддзяліць пустую пароду, а затым у спецыяльных печах выплаўлялі з яе медзь. Найбольш дасканалыя печы складалі з камянёў і абмазвалі глінай. На іх дне рабілі талерка-

падобнае паглыбленне, у сценцы — паддувала. Вугаль і медную руду ў печ закладвалі пластамі. У такім прыстасаванні можна было даводзіць тэмпературу да 1000°С, дастатковую, каб з руды пачала выплаўляцца медзь. Метал сцякаў у паглыбленні на дне печы і застываў там у выглядзе бліна. Затым сценка печы разбіралася і злітак даставалі.

Сустракаліся плавільныя печы і ў выглядзе выкапаных у зямлі грушападобных ямаў з абмазанымі глінай сценамі, у якія паветра падавалася, напэўна, з дапамогай скураных мяшкоў праз спецыяльныя адтуліны.

Медныя прылады працы былі недасканалымі і мала чым лепшымі за каменныя. Асноўны іх недахоп — мяккасць. Да таго ж медзь плавіцца пры адносна высокай тэмпературы, якой на звычайным вогнішчы было цяжка дасягнуць. І толькі бронза адкрыла шырокую дарогу для металічных прыладаў працы.

Бронза — сплаў медзі з волавам. Калі волава не было, яго замянялі мыш'яком, цынкам, сурмой, свінцом. Найлепшая прапорцыя для яго была 9:1. Бронзавыя прылады мацнейшыя за медныя, лёзы атрымліваліся вастрэйшымі, да таго ж бронзу можна было плавіць пры тэмпературы 700-900 °С, гэта значыць практычна на любым вогнішчы.

Можна толькі здагадвацца, якім шляхам была адкрыта бронза. Магчыма, старажытны чалавек выпадкова натрапіў на медную руду з дамешкамі волава. Маглі быць і нейкія іншыя шляхі гэтага адкрыцця.

Адліўка металічных рэчаў рабілася рознымі спосабамі. Чалавек даўно заўважыў, што расплаўлены метал запаўняе паглыбленні ў агнішчы або на дне плавільнай печы і, астываючы, захоўвае форму гэтых паглыбленняў. Таму, відаць, першыя формы рабіліся ў пяску або гліне пераважна для тонкіх і плоскіх вырабаў — нажоў, плоскіх сякераў. Затым пачалі расплаўленую ў спецыяльных гліняных лыжках — тыглях — бронзу ўліваць у цвёрдыя пераносныя формы. Часта формы рабілі з каменя, пры гэтым для аб'ёмных вырабаў — з дзвюх і больш частак, якія затым моцна звязваліся, а метал улівалі праз адтуліну. Праз супрацьлеглую адтуліну выходзілі паветра і газ. Найбольш дасканалыя вырабы і вырабы з багатым арнаментам вылівалі з дапамогай так званай знікаючай васковай мадэлі. Для гэтага ў каменнай форме спачатку адлівалася васковая мадэль рэчы. Потым яна абмазвалася глінай і абпальвалася, у выніку чаго форма рабілася моцная, а воск плавіўся і выцякаў. У пустэчу ўнутры глінянага камяка заліваўся метал, а пасля яго астывання форма разбівалася і даставалася гатовая рэч — упрыгожанне або прылады працы ці зброя. Заставалася толькі ліквідаваць некаторыя магчымыя

дэфекты — пухірковыя паглыбленні або выступы, запаліраваць паверхні дробным пяском, зубілам або разцом нанесці дадатковы арнамент.

## МЕДНЫЯ І БРОНЗАВЫЯ ВЫРАБЫ

Большасць тэрыторыі Беларусі была надзвычай багатая высакаякасным крэменем, прыдатным для вырабу дасканалых прыладаў працы і зброі. Яны ў некаторым сэнсе не ўступалі прывазным бронзавым і асабліва медным рэчам. Таму, мусіць, у пачатку бронзавага веку метал пераважна ішоў на выраб упрыгожанняў — бранзалетаў, дыядэм, грыўняў, пярсцёнкаў, шпілек, розных караляў. У гэтай справе, дзякуючы сваёй гнуткасці і цудоўнаму металічнаму бляску, і медзь і бронза сталі для старажытных «моднікаў» і «модніц» незаменнымі. Адзначым, што і ў наступныя эпохі, калі ўжо было вынайдзена жалеза, медныя і бронзавыя ўпрыгожанні былі распаўсюджаны надзвычай шырока. Адсюль лёгка зразумець і паходжанне слова «бранзалет».

Старажытны чалавек хутка здагадаўся, што бронза добра надаецца для вырабу прыладаў працы і зброі, бо з яе шляхам кавання і вастрэння можна было атрымліваць надзвычай вострыя лёзы.

Першыя металічныя прылады былі плоскія, яны прыйшлі на змену прыладам з каменным узорам. Спачатку выраблялiся розныя шылы, плоскія сякеры і долаты, нажы, рыбацкія кручкі. Затым з'явіліся плоскія сякеры з закраінамі на два бакі — пальштабы. Больш дасканалы тып сякераў — кельт з адтулінай для дзяржальна, перпендыкулярнай лязу, і невялікім вушкам, да якога прывязвалася дзяржальна. Былі вядомы і розныя тыпы сякераў з бакавымі адтулінамі для дзяржальнаў, паралельнымі лязу.

Калі сякеры адначасова маглі з'яўляцца прыладамі працы і зброяй, дык наканечнікі дзідаў, якія адліваліся з утулкамі для насаджвання на дрэўка, розныя кінжалы і мячы чалавекам ужываліся на паляванні і, відаць, пераважна ў час ваенных сутычак. У пазнейшы перыяд бронзавага веку пашыраецца асартымент бронзавых прыладаў працы — з'яўляюцца ўтульчатыя долаты, стамескі, цяслы, малаткі і кіркі, свердзелы, сярпы.

Бліжэйшыя месцы першабытнай металургіі існавалі ў Прыкарпацці, амаль за паўтысячы кіламетраў ад тэрыторыі Беларусі, а гэта па тым часе было вельмі далека. Траплялі да нас медзь і бронза і з яшчэ больш далёкага Каўказа і нават са Скандынавіі. Па гэтых прычынах нашы далёкія продкі з бронзавага веку металічных

вырабаў мелі няшмат. Былі яны вельмі дарагія, іх гублялі, відаць, толькі ў выключных выпадках; сапсаваныя ж рэчы не выкідалі, а пераплаўлялі.

Беларускім археолагам на тэрыторыі сваёй рэспублікі пакуль што вядома толькі каля 50 месцазнаходжанняў медных і бронзавых вырабаў, якія датуюцца бронзавым векам. Большасць знаходак была выяўлена выпадкова пад час розных земляных работ і пэўна паходзіць з разбураных тагачасных пахаванняў.



Медныя і бронзавыя сякеры з тэрыторыі Беларусі.

Першыя металічныя вырабы бронзавага веку на тэрыторыі Беларусі знойдзены яшчэ ў дарэвалюцыйную пару. Так, медная сякера выарана ля Мікасецка на Мядзельшчыне, дзве плоскія сякеры паднялі ля Кухціч на Уздзеншчыне, медны наканечнік дзіды — ля вёскі Буды (цяпер Смалявіцкі раён), бронзавы нож — ля Шылавіч на Шчары. Яшчэ ў 1889 г. сякеру-кельт знайшлі дзесьці ў былым Ігуменскім павеце (ігумен — цяпер горад Чэрвень), падобная сякера паходзіць і з былога Бзрысаўскага павета. У Навагрудку адкапалі нават бронзавы меч.

Другі бронзавы меч знайшлі ў час ворыва ля вёскі Жабчыцы Пінскага раёна.

Некаторыя металічныя знаходкі сустрэліся і ў. час раскопак старажытных пахаванняў: невялікая медная сякера ля вёскі Чэрцы на Лепельшчыне, бронзавыя сякеркі ля вёскі Чорная Лужа непадалёку ад Свірскага возера, медны серп з магілы ва ўрочышчы Вітаў Лог дзесьці на Міншчыне (на жаль, пакуль што археолагам невядома, ля якой вёскі знаходзіўся гэты Лог).

У пачатку нашага стагоддзя пад Мінскам быў знойдзены скарб бронзавых вырабаў, у якім меліся два кельты так званага меларскага тыпу. Яны датуюцца познім бронзавым векам і паходзяць, верагодна, са Скандынавіі. Сякера падобнага тыпу знойдзена і ля вёскі Курган (цяпер Мінскага раёна).

У гады першай сусветнай і грамадзянскай войнаў вучоным было не да пошукаў. Але ўжо ў 20-я гады ў музеі і навуковыя ўстановы Савецкай Беларусі зноў пачынаюць паступаць знаходкі бронзавага веку. Гэта было не выпадкова, бо менавіта ў 20-я гады дасюль нябачанымі тэмпамі пачалі развівацца беларуская археалогія, края-



Медныя сякеры і наканечнік дзіды з пахаванняў сярэднеднепроўскай культуры.

знаўства, узнікалі шматлікія музеі, паўсюдна ствараліся краязнаўчыя гурткі, перыядычны друк пастаянна ўдзяляў увагу помнікам старажытнай культуры.

У 1920 г. ля вёскі Прысна Веткаўскага раёна ва ўрочышчы Вузенькія ў час ворыва быў знойдзены абломак сякеры і дастаўлены пазней у Мінск, у Беларускі дзяржаўны музей. Сякера была тоўстая, разламаная па адтуліне. Захавалася толькі прылёзавая частка даўжынёй 5 см. Паверхня гэтай часткі была пакрыта паралельнымі нарэзкамі, якія па спіралі абвівалі корпус знаходкі.

Ля вёскі Смолькаўская Буда Касцюковіцкага раёна ў 1925 г. на беразе рэчкі Рэкты трапілася цэлая бронзавая сякера. Яна ўяўляла сабой кельт даўжынёй амаль 10 см з крыху пашкоджанай абушковай часткай, на якой вышэй вушка захаваўся адзін рэльефны валік. Захаваліся і невыразныя сляды падоўжных баразёнак на лязе, якія дапаўнялі арнаментацыю вырабу.

Трэцяя медная знаходка трапілася пастушкам у 1927 г. паміж горадам Новым Быхавам і пасёлкам Пакусіна. Гэта быў пальштаб з выпуклым лязом і характэрнымі выступаючымі закраінамі.

У 1929 г. ля вёскі Прудзішча Смалявіцкага раёна на ворным полі «Глінішча» была знойдзена сякера-кельт з арнаментаваным краем.

Прыкладна ў гэтым жа дзесяцігоддзі на Лепельшчыне трапіўся яшчэ адзін кельт з выразным кальцавым валікам на абушку і рэльефнымірэбрамі на лязе.

У розныя часы на тэрыторыі Беларусі былі знойдзены і іншыя медныя і бронзавыя рэчы: бронзавы пальштаб ля Пінска, плоская сякера ля Вікарэвіч Столінскага раёна, меднае долата ля Барысаўшчыны Хойніцкага раёна, бронзавы пальштаб у Навагрудку, падобная ж сякера ля вёскі Калічонкі Клічаўскага раёна, медны наканечнік дзіды ля вёскі Буда Бялыніцкага раёна. Амаль такія ж знаходкі сустрэліся ля Збуніна Брэсцкага раёна, Антопаля Драгічынскага і Забулля Івацэвіцкага раёнаў.

Часам знаходзілі не толькі зброю і прылады працы, але і медныя ўпрыгожанні — бранзалеты, пярсцёнкі.

Верагодна, што медных і бронзавых рэчаў на нашай тэрыторыі было знойдзена больш, але на некаторыя з іх на месцах не звярнулі

ўвагі, не паведамілі пра гэта ў адпаведныя ўстановы, і каштоўныя для нашай навукі і культуры рэчы зноў страціліся.

Апошнім часам, калі ў Беларусі больш інтэнсіўна сталі вывучацца помнікі бронзавага веку, металічныя рэчы пачалі часцей знаходзіць і пад час археалагічных раскопак старажытных паселішчаў і асабліва могільнікаў. У Магілёўскай і Гомельскай абласцях у пахаваннях раннебронзавай сярэднедняпроўскай культуры сабраны амаль тры дзесяткі медных і бронзавых вырабаў. Гэта нажы, шылы, цясла, сякеры, наканечнік дзіды, дыядэмы, грыўні, падвескі, бранзалеты, скроневыя кольцы. Трапілася плоская сякера і пры раскопках паселішча бронзавага веку ля вёскі Кастыкі на Віліі.

Металічныя рэчы ў бронзавым веку вядомы былі і насельніцтву суседніх тэрыторый. У паўднёва-ўсходніх, прылеглых да Беларусі раёнах Літвы знойдзены пальштабы, кельты, наканечнікі дзідаў, шпілька з вялікай спіральнай галоўкай. Усяго ж у Літве вядома каля 100 мясцін з такімі знаходкамі. Пры тым большасць іх на ўзбярэжжы Балтыйскага мора, куды яны траплялі ў абмен на мясцовы бурштын.

Медныя і бронзавыя вырабы ўжыаалі і старажытныя плямёны на тэрыторыі Латвіі. Сярод знаходак бронзавага веку тут выяўлены сякеры з закраінамі і шырокімі паўкруглымі лёзамі, доўгія абушковыя сякеры з адтулінамі для дзяржальна, шырокія манжэтападобныя бранзалеты, сярпы.

Некалькі кельтаў знойдзена на Смаленшчыне. Далей на ўсход колькасць бронзавых знаходак значна павялічваецца, асабліва на помніках так званай фацьянаўскай культуры. Мясцовае насельніцтва мела ўласную медную сыравіну, якую здабывала на Сярэдняй Волзе.

Багацей, чым у Беларусі, прадстаўлены металы бронзавага веку ў паўночнай частцы Украіны, бо адсюль было даволі блізка да Прыкарпацкіх цэнтраў старажытнай металургіі. Толькі з мясцовых помнікаў сярэднебронзавай тшцінецкай культуры вядома больш за сотню знаходак, сярод якіх пераважная колькасць — упрыгожанні.

У прылягаючых да Беларусі паўночна-ўсходніх раёнах Польшчы знаходак з бронзы адносна мала. Але і тут у пачатку нашага стагоддзя ля Калінаўкі Касцельнай на Беласточчыне быў знойдзены багаты скарб з 46 кельтаў, абушковай сякеры з адтулінай і двух бранзалетаў.

## КРАМЯНЁВЫЯ ПРЫЛАДЫ

У бронзавым веку на тэрыторыі Беларусі, як і на суседніх землях, металічныя прылады не выцеснілі каменных. Наадварот, у гэты час апрацоўка каменных вырабаў дасягнула найвышэйшай дасканаласці, і многія з іх (шліфаваныя баявыя сякеры, кінжалы, наканечнікі дзідаў) уражваюць нас гарманічнасцю формы і майстэрствам выканання.

У новую эпоху пераважна ўжываліся тыя ж каменныя прылады, якія былі распаўсюджаны і ў новакаменным веку — неаліце. Праўда, некаторыя вырабы набылі іншыя формы, з'явіліся і новыя тыпы, такія, як свідраваныя матыкі і сякеры, булавы, крамянёвыя выгнутыя сярпы.

На помніках бронзавага веку найбольш часта сустракаюцца нажы. Большасць іх выраблялася з пласцінак шляхам сколвання з краёў дробных лусачак — рэтушавання, якім прылады завострываліся. Адны нажы маюць спічастую форму, другія — усечаныя канцы. Некаторыя з апошніх вырабаў маглі ўжывацца як укладышы ў сярпы. Відаць, частка і нерэтушаваных пласцінак, мяркуючы па спрацаванасці на краях, была рэжучымі прыладамі. Сустракаюцца і нажы з «гарбатай», прытупленай стромкім рэтушам спінкай, зручнай для націскання пальцам пад час працы. Рэзалі і некаторымі плоска рэтушаванымі адшчэпамі.

Частыя знаходкі і скрабкі. Іншы раз іх сустракаюць не толькі на паселішчах, але і ў пахаваннях. Большасць скрабкоў выраблялася з адшчэпаў, меншасць — з пласцінчатых адшчэпаў і пласцінак. Адпаведна формам зыходных нарыхтовак і самі скрабкі былі розныя — акруглыя, трохабо чатырохвугольныя і г. д. І ўсё ж найбольш характэрныя экземпляры з некалькі расшыранай і выпуклай скрабніцай і крыху звужанай асновай. Пры гэтым рэтуш пакрываў не толькі верхні край, дзе фармавалася асноўная скрабніца — рабочая частка прылады, але звычайна апускаўся і на бакавіны. Нярэдкія выпадкі, калі нерэтушаванымі заставаліся толькі асновы скрабкоў. На некаторых стаянках Панямоння знойдзены скрабкі з адмыслова апрацаванымі звужанымі насадамі, якімі прылады ўстаўляліся ў дзяржальны. Рэтуш на скрабках, як і на іншых крамянёвых вырабах, пераважна быў больш ахайны, чым неалітычны, даўжэйшы, часам пераходзіў у струменчаты.

У канцы бронзавага веку адбывалася выраджэнне скрабкоў. Формы іх станавіліся выпадковымі, рэтуш неахайным. Але такая з'ява

— невыразнасць формаў і павярхоўнасць апрацоўкі рэтушам — на схіле бронзавага веку характэрная для ўсяго крамянёвага інвентару.

Скрабкі ў асноўным ужываліся для здзірання слоя клятчаткі — мяздры са скуры,— пасля чаго яна рабілася мяккай і прыгоднай для далейшай апрацоўкі.

На некаторых адшчэпах і абломках крэменю прыкметны выемкі, пакрытыя па краях стромкім скрабковым рэтушам. Гэта скоблі, якімі выраблялiся розныя акруглыя драўляныя і касцяныя рэчы — дрэўкі стрэлаў і дзідаў, тронкі нажоў, касцяныя шылы і інш.

На стаянках і могільніках бронзавага веку заўсёды знаходзяць даволі шмат крамянёвых наканечнікаў стрэлаў. У пахаваннях яны нярэдка ляжаць грудкамі, павернутыя вастрыямі ў адным кірунку, так, як знаходзіліся ў скураным або лубяным калчане.

Найбольш распаўсюджаная форма наканечніка стрэлы бронзавага веку на нашай тэрыторыі — трохвугольная з увагнутай асновай і вострымі адцягнутымі назад шыпамі. Наканечнікі на абедзвюх плашчы'нях апрацоўваліся доўгім струмёнчатым рэтушам, часам пільчатым, ад чаго краі рабіліся вастрэйшымі і страла небывала большую «ўбойную сілу». У Падняпроўі і Падзвінні захаваліся некаторыя формы наканечнікаў папярэдняга неалітычнага часу — лістападобныя, рамбічгіыя, лістападобныя з выдзеленым чаранком. Аднак і яны былі спрэс рэтушаваныя.

З сярэдзіны II тысячагоддзя да н. э. месцамі з'яўляюцца даволі кароткія лістападобныя наканечнікі з тонкім выцягнутым насадам або з такім жа насадам — трохвугольныя.

Крамянёвымі былі і наканачнікі дзідаў. На тэрыторыі Заходняй Беларусі яны майстраваліся з масіўных пласцін або пласцінчатых адшчэпаў, мелі выцягнутую лістападобную форму і апрацоўваліся завастраючым рэтушам па краях толькі з боку спінкі. На паўночным усходзе і ўсходзе ўжываліся наканечнікі, блізкія па форме да наканечнікаў стрэлаў, але, адпаведна, былі больш масіўныя, лістападобныя або трохвугольныя са звужанымі да асновы чарайкамі, і рэтушаваліся спрэс па абедзвюх плашчынях. Ля вёскі Мяжа Гарадоцкага раёна быў знойдзены вялікі наканечнік дзіды з прышліфаванай паверхняй. Плямёны культураў шнуравой керамікі паўднёвай Беларусі выраблялі наканечнікі з шырокімі чаранкамі, некаторыя з падобных экземпляраў маглі быць кінжаламі.

У бронзавым веку па-ранейшаму ўжываліся крамянёвыя праколкі і пракруткі, якія майстраваліся са спічастых пласцінак і адшчэпаў. Пракруткі або свярдзёлкі, якія служылі для пракручвання ў розных

матэрыялах адтулін, адрозніваліся ад праколак тым, што яны мелі супрацьлегла рэтушаваныя краі рабочага вастрыя.



Крамянёвы прылады працы

З самага пачатку бронзавага веку выраджаюцца разцы. Яны становяцца нейкімі невыразнымі па форме, а колькасць іх змяншаецца, Разцы, як вядома, у каменным веку ўжываліся пераважна

для апрацоўкі костак. Чым замянялі разцы ў бронзавым веку, бо косткі апрацоўвалі па-ранейшаму,— невядома.

Надзвычай важную і характэрную групу сярод крамянёвага інвентару бронзавага веку складалі сярпы. Яны, асабліва сярэдняга і позняга перыядаў, сустракаюцца амаль на ўсіх стаянках і могільніках. Спачатку, як і ў неаліце, ужышаліся сярпы з касцянай або драўлянай асновай, у паз якой устаўляліся пільчата рэтушаваныя пласцінкі. Пазней, асабліва на Панямонні, пачалі ўжываць у якасці сярпоў плоска рэтушаваныя пласцінкі са злёгку ўвагнутым лязом.

У сярэднім бронзавым веку з'яўляюцца больш дасканалыя сярпы, сярод якіх асабліва прыкметныя вырабы так званага валынскага тыпу, пераважна распаўсюджаныя на паўночна-заходняй Украіне і на паўднёвым захадзе Беларусі. Гэтыя прылады шырокія і адносна тонкія, з увагнутым лязом і выгнутай спінкай, канцы іх завостраны дзюбападобна, аснова роўна або косе абсечана. Сярпы валынскага тыпу па ўсёй паверхні пакрыты сколамі, а самі рэжучыя краі падрэтушаваны. Большасць такіх вырабаў мае на лёзах участкі запаліраванасці, якія атрымліваліся пры зрэзванні сцяблін каласковых раслін, у дадзеным выпадку — ячменю або пшаніцы,

Сустракаюцца і больш тоўстыя сярпы валынскага тыпу з прасцейшым лязом. Хоць яны і маюць на лёзах заломы спрацаванасці, але не такія, якія атрымліваюцца на жніве. Хутчэй за ўсё гэтымі сярпамі не жалі, а наразалі для свойскай жывёлы галлё або касілі траву. І былі яны не сярпамі, а разакамі.

На Беларускім Палессі выраблялся і сярпы з вузкіх выгнутых пласцін з завостранымі канцамі.

Шырока распаўсюджаныя ў канцы новага каменнага веку крамянёвыя сякеры ў бронзавым веку амаль заўсёды зашліфоўваліся. Нам вядомы экземпляры самай рознай ступені зашліфоўкі, якія паміж сабой адрозніваюцца па форме. На паселішчах нярэдка сустракаюцца знаходкі, толькі прышліфаваныя на лязе або на лязе і баках. У пахаванні ж клалі значна лепш апрацаваныя сякеры.

Большасць клінападобных крамянёвых сякераў з тэрыторыі Беларусі мае выцягнутую трапецыепадобную форму, у папярочным сячэнні яны авальныя, лінзападобныя, чатырохвугольныя. Для раннебронзавай культуры шнуравой керамікі былі больш характэрны тоўстыя экземпляры, якія ўжываліся і ў пазнейшы час. У канцы бронзавага веку колькасць крамянёвых сякераў змяншаецца, затым яны і зусім знікаюць — замяняюцца сякерамі з іншых парод каменю.

На захадзе і паўднёвым захадзе рэспублікі, дзе захоўвалася традыцыя позненеалітычных культураў лейкападобных кубкаў і шарапа-

добных амфар, былі шырока распаўсюджаны сякеры чатырохвугольнага сячэння са звужаным абушком. У некаторых экземпляраў бакавіны былі паралельныя, таму лёзы і абушкі мелі аднолькавую шырыню. Сярод апошніх некаторыя асабліва вузкія вырабы маглі быць долатамі або стамескамі.

У майстэрнях ля крэмнездабываючых шахтаў Заходняй Гродзеншчыны выраблялiся тысячы крамянёвых сякераў лінзападобнага сячэння, пераважна тонкіх, з прыкметна выпуклым лязом і звужаным абушком. Сякеры гэтыя былі нарыхтоўкамі і, трапляючы на стаянкі, дапрацоўваліся згодна мясцовых традыцый, але дапрацоўка пераважна абмяжоўвалася толькі прышліфоўкай ляза або зашліфоўкай па ўсёй паверхні.

## КАМЕННЫЯ СЯКЕРЫ

Археолагі па традыцыі падзяляюць вырабы са старажытных стаянак на крамянёвыя і каменныя. Калі быць прынцыповым, то такі падзел няправільны, бо крэмень — таксама камень. Але традыцыйнага падзелу будзем прытрымлівацца і мы, каб звярнуць увагу на асаблівую групу прыладаў працы бронзавага веку, якія выраблялiся не з крэменю, а з іншых парод каменю.

Каменныя сякеры, якія сваёй формай у асноўным нагадваюць крамянёвыя, зрэдку сустракаюцца ўжо на раннебронзавых помніках. У пазнейшы час такія сякеры-кліны ўжываліся паўсюдна і ў вялікай колькасці праз увесь бронзавы век і нават у пачатку жалезнага веку.

Амаль усе каменныя сякеры-кліны маюць крыху звужаны абушок і расшыранае, круглята выступаючае лязо. У рэдкіх выпадках сустракаюцца экземпляры з прывостранымі абушкамі або, наадварот, з абушкамі, па шырыні роўнымі лязу. У большасці сякеры-кліны маюць злёгку выпуклыя шырокія плашчыні, а вузкія бакавыя плашчыні — плоскія. Сячэнне такіх сякераў нагадвае лінзу з усечанымі краямі. Аднак сустракаюцца экземпляры з папярочнымі авальнымі, лінзападобнымі і нават прамавугольнымі сячэннямі. Вядомы нават і вырабы з шматграннымі паверхнямі. Асобную групу складаюць тоўстыя чаранковыя сякеры з плечыкамі, якія найбольш распаўсю-



Каменныя чаранковыя сякеры.

джаны ў паўночна-ўсходняй частцы Беларусі.

Сякеры-кліны, таксама як каменныя малаткі і цяслы, маглі прымацоўвацца да драўлямых дзяржальнаў рознымі спосабамі. Ленінградскі археолаг А. М. Мікляеў, напрыклад, на адной тарфянікавай стаянцы з паўднёвай Пскоўшчыны знайшоў каленчатае драўлянае дзяржальна сякеры з насаджанай, таксама драўлянай муфтай, у якую ўстаўлялася сама сякера.

У бронзавым веку на тэрыторыі Беларусі новым тыпам сякераў сталі каменныя свідраваныя сякеры, зашліфаваныя і нават часам запаліраваныя па ўсёй паверхні. Іх знаходзяць на стаянках і ў пахаваннях, а таксама проста на палях або балотах, на берагах рэк і азёр, дзе яны былі калісьці згублены, І калі разглядаць увогуле ўсе прылады працы бронзавага веку з Беларусі — каменныя, рогавыя, касцяныя, драўляныя,— то найбольшую ўвагу сярод іх звяртаюць на сябе як па дасканаласці апрацоўкі, так і часам па характэрных высокамастацкіх формах, сякеры з прасвідраванымі адтулінамі. На тэрыторыі рэспублікі археолагі зафіксавалі каля 2 тыс. такіх знаходак. А колькі яшчэ іх не ўлічана! Бадай, не знойдзеш такога школьнага краязнаўчага музея або нават кутка, дзе б ні захоўваліся каменныя сякеры, у тым ліку і свідраваныя.

Усе каменныя сякеры з прасвідраванымі адтулінамі, знойдзеныя ў Беларусі, падзяляюцца на некалькі тыпаў.

Сярод іх найбольш клінападобных, у якіх пярэднія і тыльныя вузкія плашчыні прамыя і больш-менш паралельныя. Самі клінападобныя сякеры паміж сабой адрозніваюцца формамі абушкоў — плоскімі, сплошчанымі, прыкругленымі або круглымі. Можна адзначыць і трохвугольныя экземпляры, у якіх найбольшая таўшчыня знаходзіцца на сплошчаным абушку. Але такія знаходкі рэдкія.

Даволі рэдка сустракаюцца сякеры рамбічнай формы або такія ж з усечанай абушковай часткай. Паміж апошнімі і клінападобнымі формамі, асабліва калі ў першых абушковая частка звужаная, часам бывае цяжка вызначыць размежаванне.

Яшчэ адну даволі значную групу складаюць так званыя лопасныя сякеры. Часам іх называюць чоўнападобнымі, бо яны нагадваюць човен у профіль. Лопасці на такіх сякерах фармаваліся на стыку ляза і тыльнай плашчыні, былі кароткімі або доўгімі. Па гэтай адзнацы археолагі падзяляюць лопасныя сякеры на асобныя тыпы. Розняцца паміж сабой гэтыя вырабы і формамі абушкоў. У некаторых лопасных сякераў на пярэдняй плашчыні быў выраблены падоўжны валік — хорда — ад абушка ажно да ляза. Каторы раз яны ўпрыгожваліся і іншымі рэльефнымі элементамі.

Адзінкавымі знаходкамі на нашых помніках прадстаўпены выгнутыя сякеры або экземпляры з грыбападобнымі абушкамі.

Часам сустракаюцца і сякеры малаткападобныя з кароткімі і шырокімі абушкамі.

На некаторых вырабах вакол адтуліны для дзяржальна быў сфармаваны валік. Такія сякеры адносяць да тыпу ўтульчатых.

Для вырабу свідраваных сякераў выбіраліся адпаведныя пароды валуновага каменю — граніты, дыярыты, сіяніты і інш.,— якія знаходзілі ў наваколлі або часам атрымлівалі з суседніх і нават вельмі аддаленых тэрыторый.



Тыпы каменных свідраваных сякераў.

Спачатку адпаведна падабраны камень апрацоўваўся на шліфавальнай пліце і паступова набываў патрэбную форму сякеры. Для таго каб шліфавалася хутчэй, на пліту падсыпалі мокры пясок. Пасля таго як сякера была поўнасцю адшліфавана, прыступалі да свідравання адтуліны, якое рабілася на спецыяльным станку. Адтуліна свідравалася пустой трубчатай косткай, у якую зноў жа насыпалі мокры пясок, які і вымолваў кальцавое паглыбленне ў камені, Свідравальны элемент прыстасавання — стрыжань з косткай — прыводзіўся ў дзеянне лучком. Пры свідраванні костка спрацоўвалася і патанчалася, адпаведна гэтаму вузела да аднаго канца і адтуліна, што ўвогуле і было патрэбна, бо ў такой адтуліне мацней трымалася дзяржальна. Калі свідраванне заканчвалася, з сякеры выпадаў цыліндрычны стрыжанёк. Такія знаходкі зрэдку сустракаюцца на стаянках.

Не заўсёды ўдавалася прасвідраваць адтуліну адной косткай. Часам яна ламалася, і тады яе замянялі йовай. У такім выпадку ў адтуліне атрымлізаліся ўчасткі рознага дыяметра.

Часам сустракаюцца сякеры з начатым і незакончаным свідраваннем. Па нейкай прычыне работу над вырабам спынілі.

Найбольш слабае месца ў каменных сякераў ля адтуліны, дзе яны часта ламаліся. Зламаную сякеру «рамантавалі», свідруючы ніжэй пералому новую адтуліну.

У паўднёвай Беларусі каменныя свідраваныя сякеры ў канцы бронзавага веку пачынаюць ўжывацца радзей, а формы іх паступова

выраджаюцца. Відаць, рубячыя прылады тут часцей пачалі вырабляць з металу — спачатку з бронзы, а затым з жалеза. У паўночнай жа Беларусі каменныя свідраваныя сякеры і сякеры-кліны — нярэдкія знаходкі нават на гарадзішчах ранняга жалезнага веку, гэта значыць у сярэдзіне I тысячагоддзя да н. э., а часам і пазней іх тут яшчэ ўжывалі.

Сякеры-кліны былі рабочымі інструментамі і ўжываліся ў асноўным для апрацоўкі дрэва. Хвою таўшчынёй 25 см такой сякерай можна было ссекчы за 15 мінут, драўляную лодку выдзяўбці — за 12 дзён. А вось каменныя свідраваныя сякеры, і асабліва лопасныя ладдзяпадобнай формы, хутчэй за ўсё былі зброяй. Таму ў мужчынскія пахаванні звычайна і клалі абодва тыпы каменных сякер — рабочую і баявую.

Вельмі рэдка, але ўсё ж сустракаюцца на помніках бронзавага веку і каменныя молатападобныя прылады з свідраванымі адтулінамі. Прыладамі працы такія рэчы не маглі быць, хутчэй за ўсё гэта былі жэзлы родавых старэйшын або воекачальнікаў, маглі яны быць і ўдарнай зброяй, Асабліва заманліва лічыць жэзламі арнаментаваныя нарэзкамі экземпляры, напрыклад, як той, што быў знойдзены ля вёскі Дружылавічы Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці.



Каменныя свідраваныя сякеры.

З каменю вырабляліся і розныя булавы, якія таксама мелі прасвідраваныя адтуліны для дзяржальнаў. Булавы былі шарападобныя, шарападобныя з утульчатай адтулінай, рабрыстыя з паўкруглымі выступамі па чатырох супрацьлеглых баках, крыжападобныя. З Пінска паходзіць масіўная каменная булава, спрэс арнаментаваная зонамі з падоўжных нарэзак, між якімі меліся наразныя крыжыкі. Булавы былі адносна невялікія, у сярэднім 5-6 см у дыяметры, але, улічваючы адсутнасць у бронзавым веку металічных шлемаў, і такая

зброя, напэўна, была эфектыўнай. Пэўна, адначасова булавы з'яўляліся і жэзламі, як і ў выпадках з молатападобнай арнаментаванай прыладай з Дружылавіч.

Шліфаванне сякераў, матык і іншых вырабаў адбывалася на паліравальных плітах, часцей пясчанікавых, прамавугольных або авальных, часам і бясформенных. Верагодна, што на такіх плітах вастрыліся і металічныя прылады.

Для апрацоўкі металічных рэчаў таксама служылі накавальні, якія, у прыватнасці, сустрэты ў раннябронзавых курганах Падняпроўя,

На паселішчах і ў курганах сярэднедняпроўскай культуры часам сустракаюцца каменныя зерняцёркі. Значна больш іх на помніках сярэдняга этапу бронзавага веку — у пахаваннях і асабліва на паселішчах сосніцкай і тшцінецкай культураў.

З каменю таксама выраблял.іся грузілы для сетак ліцейныя формы.

## КРЭМНЕЗДАБЫВАЮЧЫЯ ШАХТЫ

З палявога, так званага «сухога» крэменю, які сустракаецца на паверхні ў выглядзе камянёў-галек і абломкаў, можна было вырабляць розныя дробныя прылады працы — скрабкі, праколкі, наканечнікі стрэлаў і г. д. А вось каб зрабіць буйныя рубячыя прылады — сякеры і цяслы, такая сыравіна малапрыгодная. Таму, калі з развіццём падсечнага земляробства з'явілася патрэба ў вялікай колькасці сякераў, сталі здабываць з зямной глыбіні «сыры» крэмень, лёгка падатны апрацоўцы. Для гэтага яшчэ ў познім неаліце ў тоўшчы крэменяносных крэйдавых радовішчаў сталі выкопваць шахты глыбінёй да 6-7 м, у якіх з дапамогай падбояў і штрэкаў распрацоўваліся пласты крамянёвых канкрэцый,

Такія шахты вядомы на Гродзеншчыне ў Ваўкавыскім раёне ля населеных пунктаў Краснасельскі, Рось, Карпаўцы. Росквіт крэмнездабываючай справы ў гэтай мясціне адбыўся менавіта ў бронзавым веку, калі разгарнулася масавая высечка лясоў пад палі. Аднак у канцы бронзавага веку пачаўся заняпад распрацовак, а ў пачатку ранняга жалезнага веку, з распаўсюджанвем железных вырабаў, крэмнездабываючыя шахты спынілі сваё існаванне.

У 60-х гадах нашага стагоддзя шахты ў асноўным даследаваліся ў ваколіцах пасёлка Краснасельскага, але апошнім часам шмат такіх выпрацовак знойдзена на велізарных крэйдавых адорвенях ля вёскі Карпаўцы, за 5 км на ўсход ад ракі Рось.

На карпаўскіх шахтах было сабрана шмат гарняцкіх інструментаў, якія ў пераважнай большасці выраблядіся з рог высакародйага аленя. Мяркуючы па адсутнасці пянька на падставе рог, яны браліся не ад упаляваных жывёл, а збіраліся па лясах, скінутыя аленямі пад час змены, Рогі, я к правіла, расчляняліся на тры кавалкі. З падставы і сярэдняй часткі майстраваліся два розныя кайлы, у якіх за дзяржальна быў стрыжань рога, а рабочай часткай — завостраныя на канцах адросткі. Такімі кайламі шырэйшых частках выпрацовак, дзе можна было замахнуцца рукой, З вяршынь рог, дзе меліся вільчатыя вёрхнія адросткі, рабіліся капальныя прылады іншага характару, якімі працавалі ў вузкіх падбоях і штрэках. Ужывалі ў вузкіх мясцінах і самі адсечаныя адросткі. Апрача таго, ёсць група кінжалападобных капальных інструментаў. Для іх вырабу ўжываліся адсечаныя пласцінкі з паверхні рог. Знойдзены і самі рогі, на якіх шляхам папярочнага надсякання сякерай і падоўжанага надрэзвання крамянёвым разцом аддзялялася пласціна-нарыхтоўка. Часам старажытныя шахцёры ўжывалі рогавыя кайлы з прасвідраванымі адтулінамі, у якія ўстаўляліся дзяржальны.


Крамянёвая шліфаваная сякера.

Нарыхтоўкі рубячых прыладаў — сякераў — выраблялі тут жа на тэрыторыі шахтаў. Падобныя рабочыя месцы старажытных майстроў сустракаюцца ў напаўзасыпаных шахтах і ля вялікіх валуноў. У такіх мясцінах залягаюць цэлыя пласты з тысяч адшчэпаў і мноства нарыхтовак сякераў. Тое, што сустракаецца такое мноства адшчэпаў, зразумела: гэта «адыходы вытворчасці», а пакінутыя нарыхтоўкі, відаць, з'яўляюцца сапсаванымі, а можа нават і згубленымі экземплярамі.

Крэменеапрацоўчыя майстэрні вядомы і ў іншых мясцінах Панямоння. Мноства абломкаў і адшчэпаў крэменю, нарыхтовак сустрэлася на стаянцы сярэднебронзавага веку ля вёскі Выгода Мастоўскага раёка. Крэмень для гэтай майстэрні тубыльцы атрымлівалі з крэменяносных крэйдавых пакладаў, размешчаных на захад ад суседняй вёскі Пескі.

## КЕРАМІЧНЫЯ ВЫРАБЫ

Пры капанні шахтаў па здабычы крэменю або меднай руды чалавек усё глыбей пранікаў у тоўшчу зямлі, адкрываючы і новыя паклады высакаякаснай гліны. Адначасова, маючы велізарны вопыт

(каля двух тысячагоддзяў) неалітычнага «гаршкалепства», чалавек новай эпохі ўдасканальваў і тэхніку вырабу глінянага посуду.

Археалагічныя і этнаграфічныя назіранні паказваюць, што для вырабу керамікі людзі стараліся браць гліну, якую ачышчалі ад розных непатрэбных дамешак, Каб пазбавіцца слаістасці, гліну рэзалі пластамі і зноў размешвалі — мясілі рукамі або нагамі, дабіваючыся, каб яна была добра размятай. Затым яе «вымаражвалі» на працягу зімы, папярэдне збіўшы ў вялікія камякі. Збітыя і размятыя шары вылежваліся доўгі час у сырых месцах. Часам пры раскопках стаянак знаходзяць прыхаваныя ў зямлі запасы такой глінянай сыравіны.

Як і ў папярэдні час, у век медзі і бронзы гліняны посуд ляпіўся рукамі. Але з'яўленне пласкадонных пасудзін унесла некаторыя змены і ў гэтую справу. З асобных кавалкаў гліны фармавалася дно, венца, а з плоскіх стужак — сценкі і шыйка. Гэтыя часткі змацоўваліся паміж сабой замазваннем «швоў» глінай і загладжваннем драўлянай або касцяной лапаткай. Тымі ж лапаткамі выскрабалі на знешняй паверхні і ўнутры гаршкоў лішнюю гліну, чым дасягалася танкасценнасць вырабаў. Ад гэтага на паверхні часам прыкметны сляды заштрыхаванасці.



Гліняны посуд сярэднедняпроўскай культуры.

Калі ў неаліце ў глінянае цеста дабаўлялі такія дамешкі, як тоўчаныя ракавіны, раслінныя рэшткі, то цяпер пачалі дабаўляць пераважна жарству, якая ўмацоўвала сценкі, не давала ім усядацца пры высыханні і трэскацца пры абпале.

У неаліце абпал папярэдне падсушанага ў цяні на свежым паветры посуду адбываўся на вогнішчах пры тэмпературы 300-400°С. Пры такім нагрэве часцінкі сажы і вугалю не паспявалі згарэць і

пранікалі ў сценкі вырабу, ад чаго яны рабіліся шэрымі. У бронзавым веку ўжываліся спецыяльныя вогнішчы — абпальні, у якіх тэмпература дасягала да 800 °С. Вырабы атрымліваліся светлых колераў І, што галоўнае, моцныя.

Часам паверхні гаршкоў абмазваліся тонкім пластом вадкай гліны — ангабаваліся, ад чаго паверхні атрымліваліся роўныя і як бы «ллучністыя» навобмацак, іншы раз паверхні гладзіліся касцянымі лашчыламі, ад чаго яны набывалі нават глянец.



Гліняныя гашкі тшцінецкай культуры з Панямоння

На некаторых знаходках прыкметна, што лашчэнне праводзілася пасля арнаментавання вырабу. Знойдзены і самі лашчылы з буйных трубчатых костак, якія маюць па баках характэрныя паглыбленні.

Амаль адзіная форма керамічнага вырабу ў неаліце Беларусі — вастрадонны гаршчок. Варыяцыі назіраліся толькі ў межах гэтага тыпу; маглі быць дны вельмі вострыя і крыху закругленыя, корпус выпуклы або звужаўся на шыйцы, венца было прамое, крыху загнутае ўнутр або адцягнутае. Былі гаршкі розных памераў. Адным словам, відаць у залежнасці ад памеру, гаршчок служыў і для змесціва прадуктаў, і для гатавання стравы, і для пітва,

Бронзавы век звяртае на сябе ўвагу разнастайнасцю керамічных вырабаў. Найбольш характэрная іх рыса на тэрыторыі Беларусі — пласкадоннасць, хаця на раннім этапе былі і кругладонныя вырабы. Пры гэтым розныя плямёны мелі толькі ўласцівыя для сябе наборы формаў і тыпаў посуду са сваімі адмысловымі арнаментамі і нават сваімі тэхналагічнымі асаблівасцямі.

Як і раней, найбольш распаўсюджаны выраб — гаршчок, аднак ён становіцца плоскадонным, набывае звужаную шыйку і адагнутае венца. Падобныя формы атрымалі збанкі, але яны былі высокія, мелі, як правіла, меншае дно. Існавалі і слоікападобныя пасудзіны, пасудзіны ў выглядзе «латкі» з плаўна разведзенымі ўверх сценкамі, кубкі, некаторыя нават з ручкамі, міскі.

З гліны пачалі вырабляць і тыглі для плаўкі медзі і бронзы, формачкі для адліўкі металічных рэчаў. Глінай абмазваліся сцены

хацін, падлога, агнішчы. З гліны, нарэшце, выраблялiся праселкі, неабходныя ў прадзенні пры вырабе нітак.

Няма доказаў, што кераміка на нашай тэрыторыі выраблялася і для абмену. У гэтым не было патрэбы, бо гліна, прыдатная для вылепкі пасудзін, сустракалася практычна паўсюдна, і да таго ж усе прыблізна аднолькава добра валодалі сакрэтамі першабытнага ганчарства.

## ЗЕМЛЯРОБСТВА І ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ

У параўнанні з позненеалітычным часам у гаспадарчай дзейнасці чалавека бронзавага веку наступілі прыкметныя змены. Праўда, земляробства і жывёлагадоўля зарадзіліся яшчэ ў канцы каменнага веку, але ў новую эпоху імі пачалі займацца паўсюдна. У земляробстве лясной і лесастэпавай зон, звязаным з высечкай і выпальваннем лесу, апрача ранейшых матык і розных палак-капалак, месцамі пачалі ўжываць запрэжаны валамі плуг. Павялічылася колькасць культурных раслін, расла іх ураджайнасць. Будзённай справай стала і жывёлагадоўля. Новага ўзроўню дасягнула апрацоўка каменных прыладаў і асабліва свідраваных сякераў. У сувязі з ростам попыту на крамянёвыя сякеры, неабходныя для падсечкі, асабліва шырока разгарнулася праца на крэмнездабываючых шахтах.



Яшчэ неалітычнае насельніцтва Цэнтральнай Еўропы вырошчвала некалькі відаў пшаніцы, ячмень і проса. Былі таксама вядомы гарох, лён, чачавіца і морква. З'явіліся першыя сады з яблыневых дрэў. Аднак калі ў неаліце ў Еўропе пераважна сеялася пшаніца, у бронзавым веку на палях першае месца пачаў займаць ячмень. Гэта было звязана з наступіўшым пахаладаннем клімату.

У лясной зоне Усходняй Еўропы, дзе знаходзіцца і сучасная Беларусь, у бронзавым веку былі вядомыя мяккая пшаніца, ячмень, проса, лён, каноплі.

Земляробства бронзавага веку ў сваёй аснове з'яўлялася падсечна-агнявым. Пры гэтым спосабе атрымліваўся не толькі вольны ад лясной і хмызняковай расліннасці ўчастак, прыгодны для сяўбы, але ён адначасова і ўгнойваўся попелам, што давала магчымасць атрымліваць адносна багаты ўраджай. Так, яшчэ ў сярэдзіне мінулага стагоддзя ва Усход-

няй Еўропе месцамі атрымлівалі на такіх участках ураджай жыта сам — 50, а то і сам — 80. Недахопам падсечна-агнявой сістэмы было тое, што праз год-два трэба было высякаць і выпальваць новы ўчастак, бо стары спусташаўся. Развіццё падсечнага земляробства прыводзіла да паступовага знікнення лясной расліннасці, асабліва ва ўрадлівых раёнах. Праўда, на нашай тэрыторыі ва ўмовах вільготнага клімату пакінутыя ўчасткі хутка зарасталі маладняком, і таму працэс знішчэння лясоў праходзіў марудна.

Глебу на выпаленых участках лесу рыхлілі рознымі завостранымі каламі-капачамі, каменнымі і рогавымі матыкамі.

Часам выгарышча ўвогуле чалавек не рыхліў. Дастаткова было ўкінуць зярняты ў попел і прыбаранаваць іх якім сукаватым камлём дрэва. Зерне прарастала і давала ўраджай. Саха або плуг сталі неабходныя, калі поле засявалася некалькі разоў. У такім выпадку трэба было дабрацца да ніжэйшых, яшчэ не спустошаных пластоў перагною або прыараць растрэсены на полі гной, а для гэтага ўжо былі неабходныя плуг або саха.



Рэканструкцыя крамянёвых сярпоў.

На падставе археалагічных матэрыялаў даказана, што плуг спачатку быў увесь драўляны і ўпершыню пачаў ужывацца ў Егіпце і Месапатаміі яшчэ перад трэцім тысячагоддзем да н. э., некалькі пазней — у Індыі і Грэцыі. У бронзавым веку плуг быў ужо вядомы ў многіх раёнах Еўропы.

Наскальныя малюнкі бронзавага веку ў Швецыі паказваюць сохі, запрэжаныя парамі валоў. Сляды ворыва накрыж выявіліся пад насыпамі некаторых курганоў Цэнтральнай Еўропы. Ёсць меркаванні, што яшчэ ў сярэднебронзавы перыяд на Паўночнай Украіне плуг ужо быў вядомы. На тэрыторыі Беларусі самы старажытны знойдзены драўляны плуг-рала адносіцца да ранняга жалезнага веку. Таму, мусіць, паўсюдна ў нас у бронзавым веку глебу апрацоўвалі ручнымі прыладамі. Хіба толькі дзе на Палессі, і то ў самым канцы эпохі, маглі ўжывацца і вупражныя ворныя прыстасаванні.

Земляробства, асабліва ў малалеснай вобласці, дзе не заўсёды ўдавалася ўгнойваць глебу попелам ад спаленых дрэў і хмызняку, паступова збядняла зямлю і вымушала людзей часта перасяляцца ў іншыя месцы ў пошуках новых урадлівых участкаў. Заняткі жывёлагадоўляй давалі магчымасць назапашваць гной і скарыстоўваць яго

для агародаў і палёў. Гэта спрыяла большай прывязанасці чалавека да «наседжаных» месц.

Ураджай збожжавых культур збіраўся крамянёвымі сярпамі розных тыпаў. Найбольш прымітыўнымі сярпамі былі касцяныя і драўляныя з пазамі, у якія ўстаўляліся крамянёвыя ножападобныя пласцінкі, утвараючыя зубчатае рэжучае лязо самога сярпа. Пазней з'явіліся масіўныя крамянёвыя сярпы выгнутай формы. Сустракаліся і сярпы бронзавыя. Вымалачанае зерне размолвалася на зерняцёрках.

Яшчэ ў неаліце былі прыручаны амаль усе вядомыя сёння хатнія жывёлы. У бронзавым веку жывёлагадоўля існавала паўсюдна. На кожнай стаянцы, дзе былі ўмовы для захавання арганічных рэчываў, у вялікай колькасці сустракаюцца косткі свойскіх кароў, коней, свіней, авечак і коз. А вось курэй і іншых свойскіх птушак нашы продкі ў бронзавым веку яшчэ не ведалі.

У цёплыя месяцы не было цяжкасці з пашай. Зімой жа жывёлу кармілі назапашаным лісцем, тонкім галлём, сушанай травой, саломай. Пры неглыбокім снезе статак выганялі ў лес на падножны корм. З-за цяжкасцей у нарыхтоўцы корму на зіму (касіць жа не ўмелі), можна думаць, што шырока практыкавалася асенняе заколванне і зарэз жывёлы. Тым больш, што мяса зімой магло захоўвацца доўга.

Вядома, нашым продкам свойская жывёла была неабходна для мяса. Але ад яе атрымлівалі таксама скуры, воўну, косткі і рогі для розных вырабаў, тлушч для спальвання ў асвятляльных каганцах, сухажыллі для сшывання вопраткі. Вельмі верагодна, што ўжо ў той час ужывалі і малако. Можна меркаваць, што некаторыя гліняныя пасудзіны з адтуліналлі ў сценках служылі для адцэджвання тварагу.

## ПАЛЯВАННЕ, РЫБАЦТВА, ЗБІРАЛЬНІЦТВА

У лясах і на балотах, якімі так багата наша зямля, у бронзавым веку было мноства дзічыны, у азёрах і рэках — рыбы. Паколькі земляробства і жывёлагадоўля ў той час яшчэ не маглі задаволіць усе патрэбы ў харчаванні першабытнага чалавека, значную ўвагу ён удзяляў традыцыйным заняткам — паляванню, рыбацтву і збіральніцтву.

Відаць, асноўнай паляўнічай зброяй былі лукі і стрэлы. Для палявання на буйнога звера — тура, зубра, лася, аленя, дзіка — ужываліся таксама дзіды і сякеры. Кінжалы былі дапаможнай паляўнічай зброяй. Пры паляванні скарыстоўвалі і розныя самастрэлы, пасткі, лоўчыя ямы.

Таксама і ў рыбацтве ў параўнанні з папярэдняй эпохай асаблівых якасных змен не адбылося. Рыбу лавілі вудамі, сеткамі, пле-

ценымі з дубцоў або лучынак пасткамі, білі яе гарпунамі. Праўда, самі прылады лоўлі ўдасканаліліся. Рыбацкія касцяныя кручкі набылі тонкія зазубіны і сталі падобнымі на металічныя, з'явіліся медныя кручкі. Зазубні на некаторых касцяных гарпунах падаўжэлі. Даўжэйшымі і шырэйшымі сталі і сеткі. Ужыванне шліфаваных каменных і асабліва бронзавых дрэваапрацоўчых інструментаў дазволіла рабіць лепшыя і больш устойлівыя чаўны, а ў выніку гэтага сталі даступнымі для старажытных рыбакоў любыя глыбіні.

Раскопваючы рэшткі жылля на тарфянікавых стаянках, часам жахаешся таму бруду, які акружаў у старажытнасці чалавека. Падлога літаральна завалена смеццем, абгрызенымі і пашчапанымі косткамі, шалупінамі арэхаў, жалудоў, рыбінай луской. Складваецца ўражанне, што жыллё прыбіралі вельмі рэдка.

Пра тое, што чалавек бронзавага веку, як і яго продак веку каменнага, працягваў займацца збіральніцтвам, а таксама шырока выкарыстоўваў у сваім побыце арганічныя рэчывы з навакольнага асяроддзя, мы ведаем пераважна са знаходак на такіх вось «засмечаных» стаянках.

Значнае месца ў харчаванні старажытных людзей займалі жалуды. Ды яшчэ і ў нядаўні час жыхары Еўропы галоднымі гадамі дамешвалі жалудовую муку ў хлеб, як і тоўчаную хваёвую і бярозавую кару, У некаторых частках Паўночнай Еўропы жалудовая мука ўжывалася для выпечкі хлеба ажно да XIX стагоддзя і была ва ўсе сярэднія вякі шырока вядома як дабаўка да аржаной мукі. Жалуды па сваіх спажыўных якасцях не ўступалі ячменю. Напрыклад, кілаграм ячменю ўтрымлівае 65 грамаў бялку і 18 грамаў тлушчу, а сухія ачышчаныя жалуды — адпаведна 45 і 40 грамаў.

Шырока ўжываліся ў ежу і іншыя дзікарослыя расліны і іх часткі — грыбы, ягады, карані, лісце. У культурных пластах тарфянікавых стаянак Беларусі сустракаецца асабліва шмат шалупін лясных і вадзяных арэхаў. Вадзяныя арэхі, напрыклад, нават у Старажытным Егіпце лічыліся ласункам.

Ужываўся ў харч і мёд. У Даніі ў адным з пахаванняў на сценках знойдзенай берасцянай пасудзіны меліся рэшткі мёду, дамешанага ў журавінавае віно. Воск у бронзавым веку ўжываўся ў бронзаліцейнай справе. Сведчанняў, што чалавек гэтага часу наўмысна разводзіў пчол, няма. Мусіць, на першым часе хапала мёду і воску і ад дзікіх лясных пчол.

Неабходная чалавечаму арганізму соль паступала з мясам. Там, дзе гэта было можна, чалавек бронзавага веку стараўся соль здабыць

з зямлі або мора. Так, ва ўсходніх Альпах знойдзены познебронзавыя солездабываючыя шахты. На берагах мораў соль выпарвалі.

Нашымі продкамі шырока скарыстоўвалася кара дрэў. Лістамі бяросты накрываліся стрэхі жылля, высцілалася падлога, з яе рабілася套 рознае начынне, ёю, нарэшце, носьбіты некаторых культураў (сярэднедняпроўскай) высцілалі дно магільных ям, у якіх хавалі сваіх нябожчыкаў-суродзічаў. З той жа бярозавай кары здабывалі клеепадобны дзёгаць, якім замазваліся трэшчыны на гліняных гаршках, шчыліны ў берасцяным посудзе, замацоўвалі ў драўляных і касцяных дзяржальнах каменныя прылады. Са скручаных берасцяных стужак рабілі паплаўкі для сетак. Добрыя непатапляльныя паплаўкі атрымліваліся і з хваёвай кары. Часта скарыстоўвалася і кара іншых парод дрэў, у прыватнасці ліпы.



Спосабы мацавання каменных сякераў, молата і цяслы.

У бронзавым веку значна развілася дрэваапрацоўчая справа, бо бронзавымі прыладамі больш паспяхова, чым каменнымі, можна было высякаць у дрэве пазы і мацавальныя шыпы. Гэта дапамагала мацней і шчыльней змацоўваць паміж сабой розныя кавалкі дрэва і будаваць трывалейшае жыллё, чаўны, вырабляць рэчы хатняга побыту.

Тое-сёе вядома і пра вопратку і абутак гэтага часу. Калі вырошчвалі лён і ўмелі ткаць тканіну, то несумненна, што і вопратка была льняная. Рэштkaў вопраткі беларускім археолагам пакуль што не трапілася, але, напрыклад, выяўлена, што рудакопы на тэрыторыі Аўстрыі мелі скураныя безрукаўкі. У дубовых трунах у Даніі захаваліся скураныя чобаты, па верхнім краі якіх праз адтуліны былі працягнуты скураныя раменьчыкі, якімі абутак мацаваўся да нагі. На тарфянікавых помніках Еўропы сустракаюцца яшчэ неалітычныя скураныя, часам нават арнаментаваныя, ножны для кінжалаў. Скуранымі былі ножны кінжалаў і мячоў, а таксама чахлы для металічных сякераў і ў бронзавым веку.

З рогаў і костак выраблялі дзяржальны нажоў і кінжалаў, сярпоў, чарпакі, пасудзіны для пітва, духавыя музычйыя інструменты.

Яшчэ мезалітычнаму чалавеку Еўропы былі вядомы сані, на якіх перавозілі па снезе розныя грузы, у тым ліку і тушы ўпаляваных звяроў. Прыстасаванні для перацягвання цяжараў меліся і ў стэпавых

і пустынных раёнах. Перад III тысячагоддзем да н. э. у Егіпце і Пярэдняй Азіі да гэтых прыстасаванняў прымацавалі кола — атрымаўся, хоць яшчэ і прымітыўны, воз. Воз на Крыце, мяркуючы па тагачасных малюнках, з'явіўся каля 2000 гадоў да н. э., у мацерыковай Грэцыі — пасля 1600 года, у Швецыі — пасля 1400 года да н. э. А вось у Цэнтральнай і Паўднёвай Афрыцы, у Амерыцы і Аўстраліі тубыльцы пазнаёміліся з колам толькі пасля з'яўлення там еўрапейцаў.

Запрогшы вала або каня ў воз (і ў плуг таксама), першабытны чалавек вызваліў частку сваёй сілы і часу для іншых заняткаў, для далейшага ўдасканальвання прыладаў працы, для новых адкрыццяў.

## ПРАДЗЕННЕ І ТКАЦТВА

Першыя ніткі, відаць, спрабавалі скручваць проста рукамі, але толькі вынаходніцтва верацяна дазволіла атрымліваць доўгую і роўную нітку. Верацёны ў асноўным былі такія ж, якімі яшчэ карысталіся ў вёсках нашы бабулі. Яны мелі выгляд завостранага ўверсе драўлянага стрыжанька, унізе якога насаджваўся драўляны, каменны або гліняны дыск-праселка, які з'яўляўся махавічком і надаваў верацяну большую вярчальную інерцыю. На стаянках тшцінецкай культуры Беларусі праселкі ўжо сустракаюцца. Яны гліняныя і маюць характэрную рагатую форму.

Ніткі пралі з ільняной кудзелі і воўны. У абломку венца аднаго яшчэ позненеалітычнага гаршка з Панямоння быў заўважаны адбітак тоўстай ніткі, закатанай у гліну ў час вылепкі пасудзіны. Па адбітку відаць, што нітка была зроблена з воўны.

Моцныя ніткі былі неабходны для сшывання скуранай вопраткі, але яны ў асноўным прызначаліся, каб ткаць тканіну.

У Заходняй Беларусі на позненеалітычных стаянках зрэдку сустракаюцца гліняныя чарапкі, аздобленыя выразнымі адбіткамі грубай тканіны. Гэта бясспрэчнае сведчанне ткацтва ўжо ў дадзены час.

Відавочна, што ў бронзавым веку ткацтва развівалася далей і ўдасканальвалася.

Плесці можна з паскаў мяккай сырой кары, з дубцоў, каранёў, нават з вяровак, але з нітак вельмі нязручна, таму для атрымання тканіны існаваў нейкі больш дасканалы метад, чым пляценне. Этнаграфічныя назіранні паказваюць, што першабытныя народы нядаўняга мінулага, якія знаходзіліся прыблізна на ўзроўні нашых жыхароў з бронзавага веку, ужо былі знаёмыя з прымітыўным ткацтвам з дапамогай адпаведнай рамы. З цягам часу рама ўдасканалілася так, што стала магчымым атрымліваць тканіну з рознымі спосабамі

перапляцення. Кавалкі такіх тканін археолагі зрэдку знаходзяць на тарфянікавых стаянках.

Тканіна на такіх станках пэўна атрымлівалася нешырокімі стужкамі ў 10-15 см, як, напрыклад, у ткацтве некаторых народаў Афрыкі. Стужкі затым сшываліся. Нітка, верагодна, прасоўвалася касцяной або драўлянай іголкай, а прыбівалася да тканіны тонкімі драўлянымі мечападобнымі дошчачкамі, якія сустракаліся на тарфянікавых стаянках.

Апрача лёну, а таксама канопляў, крапіва здаўна давала чалавеку матэрыял для ткацтва і служыла яму ў гэтай справе вельмі працяглы час. Падарожнікі мінулага часу апісвалі, як крапіву апрацоўвалі на прадзіва некаторыя народы Сібіры і Далёкага Усходу. Напрыклад, насельніцтва, што жыло на берагах ракі Об, яшчэ ў пачатку нашага стагоддзя восенню рвала мноства крапівы, якая ў вялікай колькасці расла навокал паселішчаў, вязала ў снапкі і вешала сушыцца на сцены дамоў, Затым са сцяблін крапівы, папярэдне змачыўшы іх, здзіралі касцянымі або драўлянымі прыладамі знешнюю абалонку. Абалонка апрацоўвалася ў драўляных мялках, трапалася або мялася паміж далонямі. Атрыманую такім чынам крапіўную кудзелю пралі на драўляных прасніцах. У XVIII ст. жыхары Камчаткі, каб атрымаць ніткі для пляцення сетак, сцябліны крапівы жавалі зубамі і толькі затым здзіралі з іх абалонку вострымі птушынымі костачкамі, а ніткі сукалі рукамі. Але нават сярод цывілізаваных народаў Цэнтральнай Еўропы яшчэ ў нядаўні час высока цанілася надзвычай тонкае палатно з крапівы.

У бронзавым веку было шырока вядома так званае стужкавае пляценне, калі стужка са скуры, кары або плеценая з валакон крапівы ці лёну, згіналася па спіралі і сшывалася. Такім чынам можна было вырабляць самыя розныя пасудзіны. Практыкавалася і пляценне цыновак-матаў. Ёсць археалагічныя сведчанні, што ў канцы бронзавага веку распаўсюдзілася і пляценне з тонкіх лазовых дубцоў.

## ГРАМАДСКІ ЛАД. МАЁМАСНАЯ НЯРОЎНАСЦЬ

У бронзавым веку на тэрыторыі Беларусі працягваў існаваць першабытна абшчынны лад, аднак развіццё земляробства і жывёлагадоўлі, пачатак апрацоўкі металаў, далейшае распаўсюджванне абмену выклікалі значныя змены ў грамадскім жыцці, якія выявіліся ў першую чаргу ў складванні і развіцці патрыярхальных адносін у родзе, у парушэнні былой маёмаснай роўнасці, калі ў руках асобных родаў або нават сем'яў канцэнтраваліся багацці.

Лічыцца, што жывёлагадоўля развілася з палявання, калі раненых звяроў або іх дзіцянят прыносілі ў паселішчы і там прыручалі. Затым перайшлі і да мэтанакіраванага развядзення жывёл у хатніх умовах, выгадаваўшы з цягам часу іх свойскія пароды. Такім шляхам мужчына-паляўнічы адначасова станавіўся і жывёлаводам. Прымітыўнае земляробства ўзнікла са збіральніцтва пладоў і насення дзікіх раслін, якім займаліся пераважна жанчыны.

Але з далейшым развіццём земляробства, асабліва ляднага, калі была неабходна мужчынская сіла пры высякайні лесу і пры ўзворванні і баранаванні глебы з дапамогай прыручанага і выгадаванага мужчынам вала, значэнне мужчыны і ў гэтым важнейшым гаспадарчым занятку першабытнага чалавека было надзвычай вялікае. Выплаўка меднай руды і выраб металічных рэчаў узніклі, як мы ужо ведаем, у пэўнай ступені з крэмнездабываючай справы — занятку зноў жа мужчынскага. Адпаведна гэтаму і першымі металургамі, што пацвярджаюць і матэрыялы пахаванняў, сталі мужчыны.


Знаходкі з пахавання сярэднедняпроўскай культуры ля вёскі Рудня Веткаўскага раёна

Жывёлагадоўля і земляробства часам давалі лішкі прадуктаў, якія можна было абмяняць на што-небудзь іншае з іншапляменнікамі. Тым больш для абмену надаваліся металічныя вырабы. Усё гэта прывяло да таго, што мужчына і ў справе абмену адыгрываў значную ролю. А ўспомнім яшчэ паляванне — занятак амаль выключна мужчынскі, ды і рыбалоўства, а калі тут яшчэ дадаць абарону жыцця і маёмасці членаў роду ад непрыяцельскіх пасягненняў, то куды ні кінь — а без мужчыны не абысціся. Такім чынам, мы бачым, што ў бронзавым веку надзвычай вырасла роля мужчыны ў жыцці роду і племені. Канешне, у пэўнай ступені вырасла і значэнне жанчыны, але яе асноўныя намаганні цяпер накіроўваліся на хатнія справы. Праўда, без жаночых рук не магло абыходзіцца збіральніцтва. З развіццём тых жа земляробства і жывёлагадоўлі ў абавязкі жанчыны дабавіліся захоўванне і размол зерня, даенне кароў, авечак і коз, гатаванне ў гаршках разнастайнай мясной і раслліннай ежы, прадзенне, ткацтва і шыццё вопраткі з тканіны. На плячах жанчыны ляжаў асноўны клопат па вырошчванню і выхаванню дзяцей.

Нарэшце жанчына выконвала важнейшую функцыю ў прадаўжэнні роду — нараджала дзяцей. І ўсё ж у бронзавым веку лёс дабрабыту роду, а часам нават і яго існаванне залежалі ў першую чаргу ад заняткаў мужчынскіх.

Адпаведна з ростам гаспадарчага значэння мужчыны вырастала яго роля ў жыцці грамадскім. Асноўная ўлада ў родзе і племені пераходзіць да мужчын. Яны пачынаюць адыгрываць асноўную ролю як члены рады старэйшын, як военачальнікі, светары, вандроўныя купцы.



Каменны арнаментаваны малаток-жазло з вёскі Дружылавічы Іванаўскага раёна

Такім чынам, калі раней у здабыванні ежы мужчыны і жанчыны займалі роўнае становішча, а ў грамадскім жыцці жанчына-маці як галава сям'і і аб'ядноўваючая сіла пэўнага калектыву іграла вядучую ролю, то ў эпоху бронзы ў гаспадарчым і грамадскім жыцці першынство перайшло да мужчыны.

Цяпер мужчына, уступаючы ў шлюб, не пераходзіў у род жонкі, а, наадварот, забіраў яе да сябе. З'яўляючыся ўласнікам жывёлы і збожжа, мужчына быў зацікаўлены перадаць усё ў спадчыну сваім дзецям, і ў першую чаргу сынам. У сувязі з гэтым лічэнне роднасці пачало весціся не толькі па жаночай, але і па мужчынскай лініі. Такім чынам не толькі эканамічна, але і палітычна складваецца патрыярхат (патрыярх — галава роду) як сукупнасць зканамічных, грамадскіх і ідэалагічных адносін.

Асаблівая роля мужчыны выяўляецца і ў археалагічных матэрыялах. Так, на могільніках бронзавага веку мужчынскія пахаванні звычайна займалі цэнтральнае, лепшае становішча, часта яны мелі і багацейшы інвентар. У некаторых выпадках побач з мужчынскім шкілетам ляжаў шкілет жанчыны. Гэта сведчыць пра рытуальнае забойства жонкі або рабыні.

У бронзавым веку пры занятках земляробствам і жывёлагадоўляй, і асабліва пры вырабе металічных прыладаў працы, работу можна было выконваць невялікімі чалавечымі калектывамі — найчасцей сем'ямі. Атрыманыя прадукты асобныя сем'і імкнуцца пакінуць у сваіх руках, адпаведна з гэтым такія чалавечыя калектывы спрабуюць распаўсюдзіць сваю ўласнасць і на сродкі вытворчасці. Такім чынам, развіццё эканамічнай самастойнасці сям'і ўнутры роду паступова падрывала прынцыпы калектывізму.

На могільніках сярэднедняпроўскіх плямёнаў археолагамі раскапаны цэлыя сямейныя ўсыпальні.



План курганнага пахавання сярэднедняпроўскай культуры.

Са з'яўленнем і ўмацаваннем прыватнай уласнасці ўзнікае і маёмасная няроўнасць — беднасць і багацце, якія суседнічаюць унутры саміх родаў. Апрача таго, унутры племені мы бачым і роды з вялікай маёмасцю. Яны займаюць урадлівейшыя землі ці радовішчы крамянёвай сыравіны або жывуць ля важных менавых шляхоў.

З'яўленне маёмаснай няроўнасці добра прыкметна з пахавальнага інвентару. Звычайныя знаходкі ў пахаваннях — адзін ці два гаршкі, пара крамянёвых прыладаў. Іншы раз і без рэчаў. У той жа час некаторыя магілы налічваюць дзесяткі знаходак, сярод якіх сустракаюцца нават каштоўныя медныя і бронзавыя вырабы, бурштын.

Абмен існаваў і ў неалітычную эпоху. Яго прадметамі былі: крэмень, охра, розныя ракавіны, з якіх выраблялі ўпрыгожанні. Але такія формы першабытнага абмену, відаць, насілі выпадковы характар, паколькі ў кожнай мясцовасці горшы або лепшы крэмень меўся, а калі яго траплялася зусім мала, то прылады працы выраблялі з іншых парод каменю або з рог і костак. Охру ў крайнім выпадку можна было для рытуальных мэт замяніць хоць бы нават балотнай рудой: крыху падобная па колеру. Без экзатычных ракавін таксама можна было жыць. А вось са з'яўленнем металічных вырабаў пачынаецца абмен больш рэгулярны, таму што кожнае племя старалася набыць рэчы, асабліва зброю, з медзі і бронзы. Адначасова, відаць, з'явіліся і людзі, якія разносілі металічныя рэчы на далёкія адлегласці — вандроўныя гандляры. Занятак гэты быў, мусіць, прыбытковы, але і рызыкоўны, улічваючы мноства небяспечных звяроў у пушчах, адсутнасць дарог, частыя сутыкненні паміж плямёнамі. Пра існаванне гандлю ў гэты час могуць сведчыць і скарбы металічных вырабаў, якія найбольш часта сустракаюцца менавіта ўздоўж старажытных гандлёвых шляхоў.

Бурштын яшчэ з неаліту паўсюдна лічыўся адмысловым матэрыялам для вырабу ўпрыгожанняў. Значна шырэй ён распаўсюдзіўся ў бронзавым веку. Але, як вядома, бурштын сустракаецца яшчэ радзей, чым медная і алавяная руда. Таму і ён стаў важным аб'ектам абмену. Напрыклад, балтыйскі бурштын у сярэдзіне II тысячагоддзя да н. э. трапляў ажно ў Італію, Грэцыю і на далёкі Крыт.

Нарыхтоўкі сякераў з атрыманай у крэмнездабываючых шахтах сыравіны таксама шляхам абмену распаўсюджваліся на суседнія тэрыторыі, асабліва на тыя, якія былі бедныя ўласнай высакаякаснай сыравінай. У той жа час на тэрыторыю Беларусі трапляў крэмень з іншых мясцовасцей, калі ён меў нейкія асаблівасці, не характэрныя для ўласнай сыравіны. Так, у вёсцы Кубельнікі Бераставіцкага раёна знойдзена сякера, змайстраваная з надзвычай прыгожага паскаванага крэменю, які здабываўся на тэрыторыі Польшчы ў верхнім Павісленні. На Падняпроўе, дзе меўся пераважна мясцовы кропчаты крэмень, трапляў і шэра-блакітны крэмень з Панямоння і Заходняга Палесся, які, пэўна, прыносілі з сабою плямёны культураў шнуравой керамікі. Жыхары бронзавага веку Падзвіння, дзе мясцовыя крамянёвыя запасы практычна адсутнічалі, вымушаны былі выменьваць яго ў сваіх суседзяў — з басейна Віліі, з Падняпроўя і нават з Валдайскага ўзвышша.

Існавалі ў бронзавым веку і іншыя аб'екты абмену. Напрыклад, міжземнаморскія фаянсавыя пацеркі траплялі нават у Англію і

Паўднёвую Беларусь. З далёкай і туманнай Ірландыі золата прывозілася на Крыт.



Шліфаваная сякера з вёскі Кубельнікі Бераставіцкага раёна.

* * *

Ужо з часоў палеаліту і мезаліту вядомы пахаванні людзей, забітых дзідамі або стрэламі, — іх крамянёвыя наканечнікі ляжалі паміж костак шкілетаў. Цэлыя батальныя сцэны перадаюць і тагачасныя малюнкі. На стаянках і ў пахаваннях каменнага веку часта сустракаюцца крамянёвыя і касцяныя нажы і кінжалы, наканечнікі стрэлаў і дзідаў. Усе гэтыя рэчы маглі ўжывацца не толькі на паляванні. У неалітычны час у Еўропе з'явіліся і першыя ўмацаваныя паселішчы. Такім чынам, узброеныя сутыкненні паміж асобнымі чалавечымі калектывамі здараліся яшчэ ў глыбокай старажытнасці. Асноўнай іх прычынай быў захоп суседніх паляўнічых і рыбалоўных тэрыторый.

У бронзавым веку ўзброеныя сутыкненні сталі часцейшымі і, відаць, больш крывавымі. Цяпер, апрача багатых дзічынай лясоў і балот, рыбных вадаёмаў, імкнуліся захапіць і ўрадлівейшыя землі, і больш травяністыя лугі, і багатыя выкапнёвай крамянёвай, бурштынавай і меднай сыравінай радовішчы. Імкнуліся завалодаць і суседскай маёмасцю — металічнымі вырабамі, статкамі жывёлы, запасамі збожжа. Часам не міналі і саміх суседзяў, каб ператварыць іх у рабоў, якія б дапамагалі пасвіць жывёлу, апрацоўваць палі, здабываць у шахтах сыравіну.

## МАСТАЦТВА

Як і ў новым каменным веку, так і ў веку бронзавым, найбольш распаўсюджанымі сведчаннямі першабытнага мастацтва былі арнаменты на керамічных вырабах. Яны, верагодна, з'яўляліся найбольш

удзячным аб'ектам для тварца, Ён валодаў цвёрдай рукой, дакладнай лініяй, пачуццём сіметрыі і гармоніі і, галоўнае, мастацкім густам.

Найбольш раннія пасудзіны, якімі карысталіся першыя, пранікшыя на тэрыторыю Беларусі носьбіты культуры шнуравой керамікі, былі арнаментаваны сціпла. Аздабленне часта абмяжоўвалася некалькімі гарызантальнымі адбіткамі шнура, абкручанага па сырой гліне пад краем пасудзіны, або паскам кароткіх нарэзак ці насечак, размешчаных ялінкай. Часам гэтыя ўзоры акантоўваліся па ніжнім краі кароткімі насечкамі, размешчанымі вертыкальна ялінкай або лукаткай. У другой чвэрці II тысячагоддзя да н. э. посуд пачынае арнаментавацца багацей, І хоць узор у рэдкіх выпадках пакрывае ўсю паверхню сценак, аднак ён набывае шматзанальнасць і ўзбагачаецца новымі элементамі. У арнаментах пачынаюць дамінаваць наразныя лініі, гарызантальныя адбіткі шнура, якія іншы раз расчляняюць узор на зоны. Шырока распаўсюджваюцца запоўненыя нарэзкамі трохвугольнікі, Пастаўленыя пачаргова на вяршыні і асновы, яны запаўнялі цэлыя паясы. Знізу і зверху арнаментаванае поле, бывала, акантоўвалася паскамі з вертыкальных кароткіх насечак або нарэзак. Яшчэ можна ўбачыць звісаючыя фалды, аблямаваныя па краях. Паранейшаму прысутнічае ў арнаментах ялінка. Яна іншы раз утваралася і тарцовымі адбіткамі лапаткі. Сустракаюцца і рамбічныя ўзоры, надзвычай падобныя на нашы сучасныя арнаменты.



Арнаменты на кераміцы ранняга бронзавага веку з басейна Прыпяці.

На позніх этапах паўночнабеларускай культуры, якая фарміравалася ў познім неаліце і існавала ў ранняй бронзе, на пласкадонных пасудзінах найчасцей сустракаюцца ўзоры ялінкі і лукаткі, што пакрывалі вырабы ад брыжа да самага дна. Пазней арнамент канцэнтруецца толькі на шыйцы гаршкоў. Вельмі часта аздаблялася і плоскае

дно пасудзіны. Пры гэтым на яго амаль заўсёды наносіліся салярныя знакі — адзінарныя і двайныя кругі, у якія былі ўпісаны крыжы, З рэдкіх узораў на кераміцы паўночнабеларускай культуры адзначаны вясёлкі, трохвугольнікі з ямачак, квадраты, запоўненыя вертыкальнымі і гарызантальнымі насечкамі.

На некаторых раннябронзавых пасудзінах з тэрыторыі Беларусі прыкметны перажыткі мясцовай неалітычнай традыцыі — ямачкі пад. брыжам, грабеньчатыя ўзоры.

У сярэдні бронзавы век у арнаментах на кераміцы з'яўляюцца баразёнчатыя элементы і адбіткі тонкага арнаменціра з абматаным вакол яго шнуркам або ніткай — ружанцавыя ўзоры. Арнаменты на сярэднебронзавых гаршках перамяшчаюцца ўверх. Спрэс упрыгожаныя экземпляры сустракаліся пераважна толькі ў Падняпроўі ў зоне распаўсюджання сосніцкай культуры. На першым часе і ў сярэднюю бронзу пры аздабленні керамікі практыкавалася многазанальнасць. У большасці выпадкаў гаршчок або міска аздабляліся на венцы гарызантальнымі баразёнкамі або ружанцавымі адбіткамі, ніжэй якіх размяшчаліся звісаючыя ўніз трохвугольнікі або лукаткі. Узор часам дапаўняўся дробнымі наколкамі, насечкамі. На некаторых пасудзінах меўся шэраг глыбокіх ямак пад брыжам і былі грабеньчатыя адбіткі. Сустракаліся і шнуравыя арнаменты, але значна радзей, чым у раннябронзавы час.

Для сярэднебронзавай культуры Падняпроўя характэрна больш арнаментаваная кераміка, у якой было шмат ружанцавых і шнуравых элементаў. Часам аздабленне гаршкоў дапаўнялі налепныя валікі.

У канцы існавання сярэднебронзавых культураў арнаменты на керамічных вырабах бяднеюць. Нярэдка яны абмяжоўваюцца вузкай стужкай пад самым "брыжам. З'яўляецца і зусім не аздоблены прсуд. Гэта тэндэнцыя яшчэ больш выразна праяўляецца ў познім бронзавым веку.

Арнаментаваўся не толькі посуд, але і шмат якія гліняныя праселкі. На тшцінецкіх экземплярах мы знаходзім вертыкальныя лініі з кропкавых наколаў. Такія ж наколы ўроссып або кругамі і насечкі маюцца на канцах рагатых праселкаў.

Наразным арнаментам аздабляліся і некаторыя каменныя вырабы — жэзлы, булавы, сякеры. Некаторыя сякеры імітавалі металічныя экземпляры і на іх фармаваліся нават ліцейныя швы. Ды і самі адмысловыя і надзвычай гарманічныя формы некаторых каменных баявых сякераў сведчаць, што гэтыя вырабы задавальнялі не толькі практычныя, але і зстэтычныя запатрабаванні першабытнага чалавека.



Арнаменты на кераміцы ранняга бронзавага век у з Паазер'я.

Жыхары паселішчаў бронзавага веку любілі ўпрыгожваць сябе караламі з зубоў жывёл, асабліва ваўка і аленя, нанізанымі на шнурок або сухажылле. Такая аздоба часам дапаўнялася караламі цыліндрычнай формы, рознымі касцянымі пласцінкамі. Шырока распаўсюдзіліся каралі і іншыя ўпрыгожанні з бурштыну. Пры гэтым, калі ў неаліце бурштын быў вядомы толькі на Беларускім Падзвінні, то з распаўсюджаннем культураў шнуравой керамікі ў Прыбалтыцы і Беларусі ён трапляў на ўсю тэрыторыю, якую цяпер займае наша рэспубліка. У могільніках сярэднедняпроўскай культуры сустракалася шмат кроплепадобных або сякерападобных бурштынавых вырабаў з бакавой прасвідраванай адтулінай у вузейшай частцы. Былі вядомы і масіўныя плоскія кружкі, і каралі складанай формы. У каралях кружкі спалучаліся з трапецападобнай часткай. На Падзвінні з'яўляліся моднымі вялікія, старанна апрацаваныя трапецападобныя падвескі, гузікі.

Бурштынавыя гузікі з-за сваёй крохкасці не заўсёды надаваліся для зашпільвання вопраткі, асабліва верхняй. Таму, відаць, часта яны служылі звычайнымі ўпрыгожаннямі, нашытымі на вопратку або галаўны ўбор. Больш надзейнымі былі касцяныя і медныя шпількі. Касцяныя рэчы ў зямлі захоўваюцца дрэнна і таму толькі вядома,

што, напрыклад у сярэднедняпроўцаў, ужываліся малаточкападобныя шпількі.



Бурштынавыя ўпрыгожанні.

Каралі і асобныя падвескі найчасцей сустракаюцца ў жаночых пахаваннях, і ў асноўным іх насілі на шыі, Аднак, мяркуючы па месцазнаходжанні, іх таксама нашывалі на вопратку, галаўныя уборы, паясы і нават абутак. Рабілі з розных падвесак і пранізак і бранзалеты. І нарэшце такім жа чынам іншы раз аздабляліся футляры медных вырабаў — сякераў, нажоў, кінжалаў.

Надзвычай прыгожа выглядалі медныя аздобы. Начышчаныя да бляску, яны павінны былі звяртаць на сябе асаблівую ўвагу.

Акулярападобнымі меднымі падвескамі ўпрыгожвалі сябе сярэднедняпроўцы. Падобныя меліся ў іх і скроневыя кольцы. Бранзалеты выраблялiся з круглых або чатырохвугольных у сячэнні стрыжняў. Падобныя, але значна большыя па памерах былі і грыўні, якія насілі на шыі. На сярэднедняпроўскіх могільніках знойдзены асабліва прыгожыя густоўныя грыўні з шырокіх пласцін з плаўна звужанымі канцамі, якія па краях часам арнаментаваліся кароткімі насечкамі. Некаторыя грыўні насілі разам з бурштынавымі падвескамі.

Пачынаючы з сярэднебронзавага веку медных аздобаў выраблялі больш. Асабліва шмат бышо ў насельнікаў тшцінецкіх і сосніцкіх стаянак бранзалетаў, сярод якіх сустракаліся шматспіральныя бранзалеты з закручанымі канцамі, экземпляры гладкія з раздзеленымі канцамі і падобныя вырабы з канцамі злучанымі. Некаторыя бранзалеты мелі арнаментаваныя насечкі або нарэзы, якія часам утваралі складаныя ўзоры. Калі бранзалетамі ўпрыгожвалі запясці, то пальцы — пярсцёнкамі з медзі, якія паміж сабой адрозніваліся толькі па спосабу замацавання канцоў. Але некаторыя пярсцёнкі маглі выкарыстоўвацца і як скроневыя кольцы, якімі ўпрыгожвалася прычоска або галаўны ўбор. Як і ў ранняй бронзе, і ў пазнейшыя часы таксама існавалі медныя каралі.

У сярэдняй бронзе з'яўляюцца медныя шпількі, невядомыя раней. Маючы утылітарнае прызначэнне, як запінкі для вопраткі, яны адначасова былі і аздобай. Усе шпількі мелі вострыя іголкападобныя

стрыжні і галоўкі: грыбападобныя, скручаныя ў спіраль, плоскія ромбападобныя з набіваным арнаментам.

* * *

На стаянцы Асавец II знойдзены абломкі выразна прафіляванага гаршка, аздобленага па шыйцы частымі гарызантальнымі паскамі адбіткаў абматакага шнура. Ніжэй гэтага арнаменту на пукатым корпусе гаршка кароткімі адбіткамі таго ж шнура былі выграviраваны дзьве чалавечыя постаці. Адна выява захавалася амаль поўнасцю, ад другой засталіся толькі галава і рука. Фігуры схематычныя, аднак яны даволі ўдала перадаюць абрысы чалавечага цела — галава, шырокія мужчынскія плечы, сагнутыя ў локцях рукі, торс. Асавецкая знаходка не адзіная на нашай: тэрыторыі. Выява чалавека і качкі знойдзена на неалітычным гаршку з Юравіч Калінкавіцкага раёна. Манера і стыль паказу чалавечых выяў на гэтых знаходках паміж сабой падобныя. Відаць, і ў эпоху бронзы захаваліся і далей развіваліся даўнія мастацкія традыцыі.



Выява чалавечай фігуры на абломку глінянага гаршка са стаянкі ля вёскі Асавец Бешанковіцкага раёна.

Прымаючы пад увагу, што паўночнабеларуская культура дасягнула свайго росквіту ў бронзавым веку, шмат якія знаходкі мастацкіх вырабаў гэтага перыяду на тарфянікавых стаянках Віцебшчыны—драўляныя і касцяныя выявы людзей, звяроў і птушак — могуць датавацца бронзавым векам.

## СВЕТАПОГЛЯД

Рэлігія ў бронзавым веку, як і ва ўсе першабытныя часы, грунтавалася на анімізме — веры ў існаванне духаў і душ, волі якіх нібыта падлягаюць усе навакольныя прадметы і з'явы. Важнае месца ў такіх уяўленнях займаў культ продкаў. Найбольш яскрава гэта вера ў духоўнае праяўлялася у пахавальных абрадах. Нашы продкі верылі, што і пасля смерці людзі будуць жыць «на тым свеце», палявaць на дзічыну, лавіць рыбу, займацца земляробствам і жывёлагадоўляй, вырабляць крамянёвыя і каменныя прылады працы, плавіць медзь і бронзу, мужчыны — ваяваць, жанчыны — займацца хатняй гаспадаркай і гатаваннём стравы. Карацей кажучы, уяўлялася, што смерць — гэта як бы працяг зямнога жыцця ў новай форме. Таму нябожчыкаў клалі ў магільныя ямы ў позе сну — скурчанымі і на адным з бакоў, побач

складалі разнастайныя рэчы — прылады працы, зброю, гліянае начынне з ежай, упрыгожанні. Нават ставіліся ў магілах разнастайныя збудаванні, якія былі падобны на жыллё. Лічылася, што, перайшоўшы ў свет духаў, душа памёршага можа дапамагаць або шкодзіць жывым суродзічам. Таму яе стараліся задобрыць рознымі дарункамі, магічнымі рытуаламі. Асабліва знатныя члены роду (правадыры, славутыя воіны) пасля смерці, на думку тагачасных людзей, станавіліся духамі-ахоўнікамі цэлага роду або племені.

Пра існаванне культа продкаў сведчаць не толькі пахаванні, але і выявы людзей на кераміцы, статуэткі.

Займаючыся земляробствам, разводзячы свойскую жывёлу, чалавек меў большую магчымасць непасрэдна назіраць разнастайныя працэсы і з'явы, у прыватнасці рост і размнажэнне жывых істот і раслін. Відаць, асабліва цікавілі і ўзрушалі загадкавыя з'явы нараджэння і смерці. Вырастанне раслін з зярняці ўспрымалася як уваскрашэнне да новага жыцця. Пры тым была заўважана непарыўная сувязь развіцця жывёльнага і расліннага свету з нябеснымі з'явамі— кожную раніцу нараджалася і як бы памірала вечарам сонца — крыніца святла і цяпла, без якога не магло існаваць жывое; усё вышэй падымалася сонца і даўжэй яно затрымлівалася на небе — цяплела, таялі снягі, ажывала прырода, і наадварот, калі ўсё меншую дугу апісвала нябеснае свяціла — карацеў дзень, халадала, затым наступала зіма і як бы смерць прыроды. Такія ж сувязі шукалі першабытныя людзі паміж становішчам іншых нябесных свяцілаў — Месяца і сузор'яў — і з'явамі ў наваколлі.

З часам узнік культ Сонца як вярхоўнага боства, якому падуладна ўсё існае, у тым ліку і розныя меншыя боствы і духі. Ад культа Сонца быў неадрыўны і культ агню як зямнога ўвасаблення нябеснага свяціла. Відаць, важную ролю ў з'яўленні культу агню магло адыграць і выпальванне ўчасткаў лесу пад поле, калі было заўважана, як агонь, знішчаючы лес, быццам даваў жыццё зярнятам, кінутым у попел.

Сведчанні культа Сонца і агню мы сустракаем ледзь не ў кожным пахаванні. Гэта і падсыпка попелу на дно магіл, і звычай пасыпаць у некаторых выпадках нябожчыкаў охрай, і памінальныя вогнішчы над магіламі, і арыенціроўка значнай часткі нябожчыкаў галавой на заходзячае сонца або тварам да сонца, на гліняных вырабах часта сустракаюцца сімвалічныя выявы нябесных свяцілаў, асабліва Сонца,— так званыя салярныя знакі, сярод якіх найчасцей мы бачым кругі з крыжападобнымі фігурамі, радыяльнымі лініямі ад цэнтраў кругоў, свастыкі.

Шаманы вядомы былі нават сярод найбольш прымітыўных народаў свету. Яны, пэўна, існавалі і ледзь не праз увесь каменны век. Роля такіх светароў, якія служылі «звязваючым звяном» паміж чалавекам і светам звышнатуральных сіл, у бронзавым веку надзвычай вырасла. З'явіліся нават шаманскія пахаванні. Пра афармленне рэлігіі ў бронзавым веку як пра складаную сістэму паняццяў і рытуалаў сведчаць і знаходкі спецыяльных культавых збудаванняў.



Каменныя булавы з тэрыторыі Беларусі.

З уяўленнем пра ачышчальную жыватворную сілу агню і сонца пэўна звязана і з'яўленне звычаю спальвання нябожчыкаў. Абрад трупаспальвання ўзнік яшчэ ў III тысячагоддзі да н. э. у Месапатаміі. Другім яго цэнтрам стала Індыя. З часам гэты звычай пранік і ў Еўропу. На тэрыторыі Беларусі ён стаў вядомы яшчэ ў канцы існавання сярэднедняпроўскай культуры, а ў сярэдняй бронзе гэты звычай распаўсюдзіўся сярод плямёнаў сосніцкай і тшцінецкай культуры.

Некаторыя вучоныя лічаць, што распаўсюджанне абраду трупаспальвання на такіх велізарных тэрыторыях сведчыць аб узнікненні першай сусветнай рэлігіі сонцапаклоннікаў.

У бронзавым веку працягвала існаваць і вера ў роднасную сувязь людзей з пэўнымі відамі жывёл і раслін, з прадметамі — татэмізм.

Шмат якім рэчам чалавек бронзавага веку надаваў звышнатуральныя ўласцівасці. Такімі фетышамі — абярогамі — пэўна былі каралі з зубоў жывёл, зубы мядзведзя, бурштынавыя вырабы і, магчыма, медныя аздабленні. Але адначасова ўсе медныя, касцяныя, бурштынавыя і металічныя ўпрыгожанні мусіць у першую чаргу ўсё ж служылі задавальненню эстэтычных запатрабаванняў першабытнага чалавека. Можна думаць, што ў бронзавым веку зараджаўся і культ

баявой сякеры, якая амаль заўсёды клалася нябожчыку ў магілу, часам адмыслова аздаблялася, а некаторыя экземпляры маглі быць рытуальнымі прыладамі або жэзламі — адзнакамі военачальнікаў, старэйшын і, мабыць, светароў.

## ПЛЯМЁНЫ І КУЛЬТУРЫ

Бронзавы век на тэрыторыі Беларусі пачаўся з распаўсюджаннем тут розных культур шнуравой керамікі. У самым пачатку II тысячагоддзя да н. э. шматлікія і, відаць, ваяўнічыя прышэльцы з'явіліся ў Палессі і на Падняпроўі. Некалькі пазней яны праніклі ў басейны Дзвіны і Немана. «Шнуравікі», як іх часам называюць археолагі, карысталіся баявымі каменнымі сякерамі, а свой посуд упрыгожвалі адбіткамі шнура. Іх паселішчы з наземнымі жыллёвымі збудаваннямі размяшчаліся на берегах вадаёмаў. Побач знаходзіліся грунтавыя і курганныя могільнікі.

«Шнуравікі» прыйшлі на тэрыторыі, спрадвеку заселеныя неалітычнымі плямёнамі. І, канечне, на пачатку такое суседства не магло быць мірным, бо ніхто не глядзеў спакойна, калі на яго землях з'яўляліся няпрошаныя чужынцы. І ўсё ж з цягам часу варожасць павінна была змяніцца «мірным суіснаваннем». Гэтаму спрыяла тое, што тубыльцы пераважна займаліся паляваннем, рыбацтвам і збіральніцтвам, а прышэльцы — жывёлагадоўляй і земляробствам. Як бачна, розныя групы насельніцтва цікавілі розныя мясціны на адных і тых


Гаршкі сосніцкай культуры з Падняпроўя


Посуд тшцінецкай культуры з Беларускага Палесся.

жа тэрыторыях: нашчадкаў неалітычнага насельніцтва — лясы, балоты і рыбныя вадаёмы, «шнуравікоў»— паплавы і нізкія тэрасы з урадлівымі глебамі і травяністымі лугамі. Праз нейкі час пачаўся

культурны ўзаемаўплыў, усталяваліся больш цесныя гаспадарчыя адносіны, людзі радніліся шляхам змешаных шлюбаў. І прыкладна да сярэдзіны II тысячагоддзя да н. э. адбылося канчатковае зліццё рознакультурных плямёнаў. Такім чынам сфарміраваліся сярэднебронзавыя культуры, і ў першую чаргу тшцінецкая і сосніцкая. Гэтаму працэсу спрыяла і тое, што ў XVI-XV стагоддзях да н. э. на паўднёвы ўсход сучаснай тэрыторыі рэспублікі пранікалі з поўдня носьбіты культуры шматвалікавай керамікі.

Плямёны сосніцкай культуры займалі Падняпроўе, а тшцінецкай — Палессе і паўднёвае Панямонне. Гэта насельніцтва было між сабой роднасным і мела ва ўжытку шмат у чым падобныя тыпы керамічных вырабаў, каменных і металічных прыладаў працы, упрыгожанняў.

З павелічэннем колькасці людзей выраслі і памеры паселішчаў, якія ператварыліся ў сапраўдныя вёскі з вуліцамі, забудаванымі пераважна зямлянкамі. Зямлянкі складаліся з двух памяшканняў. У адным з іх размяшчалася кухня з агнішчам, у другім — нізкія глінабітныя сталы, ляжакі. Уздоўж сцен зямлянак былі ўкапаны слупы, на якіх мацаваліся сцены, складзеныя з драўляных плашчакоў і тонкіх бярвенцаў. Слупамі падтрымліваліся і двухсхільныя стрэхі.

Побач з жылымі зямлянкамі знаходзіліся наземныя збудаванні, у якіх, напэўна, захоўваліся сена, салома, рыбацкія сеткі і розны гаспадарчы рыштунак. Халодным часам у іх, магчыма, трымалі і жывёлу. Шматлікія ямы на паселішчах служылі сметнікамі, а некаторыя — кладоўкамі для зерня, жалудоў, арэхаў і іншых харчовых прыпасаў.

Зямлянку, гаспадарчую пабудову і размешчаныя побач ямы абкружала агароджа, якой двор аддзяляўся ад суседняга.

Сустракаюцца на паселішчах сярэднебронзавага часу і культавыя збудаванні — бажніцы, у якіх маліліся, а часам і хавалі нябожчыкаў.

Могільнікі тшцінецкага і сосніцкага насельніцтва археолагі знаходзяць воддаль ад паселішчаў на краях тэрас або на прырэчных схілах узгоркаў. Могільнікі былі розных тыпаў: курганныя з трупаспаленнямі або трупаскладаннямі, грунтавыя бескурганныя з трупаспаленнямі.

Зараз вызначана, што плямёны сярэднебронзавага часу ў паўднёвай і цэнтральнай Беларусі існавалі ўсю другую палову II тысячагоддзя да н. э.

Гаворачы пра этнічную прыналежнасць носьбітаў тшцінецкай культуры, некаторыя даследчыкі зыходзяць з тых меркаванняў, што славянамоўны масіў складваўся дзесьці ў II тысячагоддзі да н. э. на велізарнай тэрыторыі паміж Эльбай і сярэднім цячэннем Дняпра.

Якраз тут і менавіта ў гэты час і была распаўсюджана тшцінецкая культура. Значыць, на іх думку, яе носьбіты і з'яўляюцца самымі старажытнымі славянамі. Больш асцярожныя называюць тшцінецкую культуру праславянскай, гэта значыць той, з якой узнікла непасрэдна славянская культура.

У самым канцы II тысячагоддзя да н. э. на гэрыторыю сучаснай Брэстчыны з захаду пранікла новае насельніцтва, культуру якога археолагі ўмоўна назвалі лужыцкай. Гаспадарка лужыцкіх плямёнаў грунтавалася на земляробстве і жывёлагадоўлі. Зямля ўзворвалася драўляным ралам. Мясцовыя плавільшчыкі з прывазнай сыравіны выраблялі даволі шматлікія медныя і бронзавыя рэчы — сякеры, наканечнікі дзідаў і стрэлаў, сярпы, шылы, долаты, упрыгожанні. Вядомы былі нават бронзавыя брытвы.

Лужычане існавалі працяглы час. Росквіт іх культуры прыпадае на наступную эпоху — ранні жалезны век.

## КАНЕЦ БРОНЗАВАГА ВЕКУ

Сталася так, што позні бронзавы век на тэрыторыі Беларусі застаўся найменш даследаваным. Матэрыялы гэтага часу траплялі ў рукі археолагаў пераважна выпадкова ў час раскопак іншачасовых помнікаў.

Пры раскопках позненеалітычнай і раннебронзавай стаянак на левым, нізкім беразе Немана ля вёскі Латышы Дзятлаўскага раёна сустрэліся гліняныя чарапкі ад моцна абпаленага пласкадоннага гаршка слоікападобнай формы. Паверхня пасудзіны была спрэс заштрыхавана. Такія ж чарапкі з штрыхаванай паверхняй былі знойдзены на Лебядзе — правабярэжным прытоку Немана ля вёскі Мацеўчукі Шчучынскага раёна. Шмат такіх матэрыялаў выяўлена ў Мядзельскім і Вілейскім раёнах ля вёсак Малмыгі на Віліі, Занарачча і Мікольцы на возеры Нарач, ля Навасёлак на Кублі, якая ля вёскі Круці ўпадае ў возера Баторын.

Падобная, толькі значна грубейшая кераміка спрэс сустракаецца ў наступную пасля бронзавага веку эпоху. У раннім жалезным веку яна існавала ў Цэнтральнай і Паўночна-Заходняй Беларусі.

Ва ўрочышчы Плітніца ля вёскі Нача Воранаўскага раёна ў самым канцы XIX стагоддзя было раскапана пахаванне з трупаспаленнем, якое знаходзілася ў невялікай, абкладзенай камянямі яме. У яме меліся рэшткі шасці пласкадонных гаршкоў. Адзін з іх быў арнаментаваны пад брыжам паскам са свастык і іх элементаў. Гэта самыя старажытныя на нашай тэрыторыі выявы свастыкі, архаічнага

індаеўрапейскага сімвала агню і сонца. Сімвала, так апаганенага ў навейшы час фашысцкімі нелюдзямі.

У пачатку XX стагоддзя В. Шукевіч даследаваў ля той жа Начы ва ўрочышчы Ланкішкі другі грунтавы могільнік, у якім выявіў больш за 80 пахаванняў. Пахаванні былі зроблены ў даволі вялікіх ямах, выкладзеных камянямі. Ямы ўтрымлівалі пераважна трупаспаленні, Не спаленыя шкілеты ляжалі толькі ў трох ямах. Разам з шкілетамі знойдзены гліняныя пасудзіны, расшчапаныя крамяні, невялікае бронзавае кольца. У пахаваннях з трупаспаленнем былі пасудзіны і каменныя вырабы.

Пахаванні ў Плітніцы і Ланкішках таксама адносяцца да позняга бронзавага веку, але культурную прыналежнасць іх пакуль што вызначыць цяжка.

Бронзавы век на нашай тэрыторыі даследаваны яшчэ недастаткова. Вучоныя рыдлёўкамі, нажом і пэндзлем адкрываюць з-пад пылу тысячагоддзяў усё новыя сляды жыццядзейнасці нашых далёкіх продкаў, рэшткі іх своеасаблівай і багатай матэрыяльнай культуры і сведчанні развітой культуры духоўнай. Будучыня прыняе новыя адкрыцці, якія дазволяць напісаць яшчэ не адну цікавую старонку гісторыі вельмі далёкіх ад нас пакаленняў.

## ЗМЕСТ

Уступ
Першыя рудакопы. Выплаўка медзі і бронзы
Медныя і бронзавыя вырабы
Крамянёвыя прылады
Каменныя сякеры
Крэмнездабываючыя шахты
Керамічныя вырабы
Земляробства і жывёлагадоўля
Лаляванне, рыбацтва, збіральніцтва
Прадзенне і ткацтва
Грамадскі лад. Маёмасная няроўнасць
Мастацтва
Светапогляд
Плямёны і культуры
Канец бронзавага веку

Серия «школьникам — об истории БССР»
Михаил Михайлович Чернявский
БРОНЗОВЫЙ ВЕК НА ТЕРРИТОРИИ БЕЛОРУССИИ
Минск, издательство «Народная асвета»
На белорусском языке
Рэдактар В. Ф. Г а п а н о в і ч.
Вокладка мастака Г. И. С я н ь к о ў с к а г а.
Мастацкі рэдактар А. І. І н к і н.
Тэхнічны рэдактар В. Н. Ж у к.
Карэктар Л. С. Кабачэўская.
ІБ № 1185
Здадзена ў набор 01.10.80. Падпісана ў друк 29.12.80. АТ 1704R.
Фармат 70x1081/32. Пап. друк. N° 3. Гарнітура журн. рубленая,
Высокі друк. Ум. друк, арк. 2,8. Ул.-выд. арк. 2,73. Ты раж 11 000 экз.
Заказ 1501. Цана 10 к.
Выдавецтва «Народная асвета» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600 Мінск, Паркавая магістраль, 11. Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. 220041 Мінск, Ленінскі праспект, 79.